СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

# КРУГІ НАДЗЕІ

КНІГА НОВЫХ ВЕРШАЎ
1982—1984



*Мінск «Мастацкая літаратура» 1985*

# АСАБІСТАЯ СПРАВА

***НЯЎДАЧЫ, ПРАВАЛЫ І ЎЗЛЁТЫ,***
***ТРЫВОГІ І ЎЯЎНАЯ СЛАВА,***
***І ПРОЦЬМА НЯЛЁГКАЙ РАБОТЫ —***
***НЕ ТОЛЬКІ МАЯ АСАБІСТАЯ СПРАВА.***



## СОНЕЧНЫ ВЕЧАР

Канчаецца сонечны вечар.
Ужо за акном халады
Склікаюць на думнае веча
Мае маладыя гады.

Вядзе незваротная памяць
Па сыпкіх сумётах мяне
Туды, дзе шалёная замець
Шуміць і шуміць па сцяне,

Туды, дзе маё пакаленне
Вышыняў сваіх не здало,
Туды, дзе адважных сумленне
На смерць і ў бяссмерце вяло.

Мы зведалі шчасця нямнога
У горкі і праведны час
І зорную нашу дарогу
Касцямі масцілі для вас,

Нашчадкі суровае долі,
Зайздроснага лёсу сыны,
Каб вы не спазналі ніколі
Вайны і віны без віны,

Каб ведалі, каб памяталі,
Каб вечны агонь не пагас
Над памяццю тых, што аддалі
Жыццё, не пабачыўшы вас,

Над славаю тых, што са злосцю,
З усмешкай і словам крутым
Плацілі за ўсё маладосцю,
А самі знікалі, як дым.

Вядзе незваротная памяць
У морак таежных дарог,
Дзе наша сумленне запляміць
Ні вораг, ні злыдзень не змог.

Вядзе ў завірушныя зімы,
Дзе гора па горла было,
Дзе мерзлі, абы да Радзімы
Даходзіла наша цяпло.

Юнацтва — далёкая песня,
Балючы ўспамін — маладосць,
Але і цяпер, на прадвесні,
І восенню клопаты ёсць.

Канчаецца ветраны вечар,
А смутку і знаку няма,
Хоць ростані, а не сустрэчы
Сурова прарочыць зіма.

## СІЛА ЗЯМЛІ

Калі сціснецца сэрца ад болю,
І прыстану зусім на хаду,
Пры дарозе ці ў ветраным полі
У даспелыя травы ўпаду,—

На палын, на халодны трыпутнік,
На пасохлы чабор і званец
Павалюся цішком, як пакутнік,
І падумаю: «Вось і канец».

Ды пачую: стракочуць стракозы,
Па галінцы паўзуць мурашы,—
Нечаканыя высахнуць слёзы,
Акрыяе надзея ў душы.

На рамонках туманныя росы
І гараць, і цвітуць, і дрыжаць,
Маладзік устае з-за бярозы,
Каб у полі пшаніцу дажаць,

Перапёлкі заходзяцца ў жыце,
Атрасаючы долу тугу.
Я прашу іх: «Хоць вы не кажыце,
Што дадому дайсці не магу».

Узыходзіць над жытам Венера,
Моўкне плач адзінокай савы...
Я прыпаў да зямлі і паверыў,
Што ўваскрэсну, што зноўку жывы.

## ДУШАГРЭЙКА

Пакуль на Поўнач клалі рэйкі
Праз горны і лясны масіў,
Я тры казённых целагрэйкі
Ушчэнт, да гузікаў знасіў.

Кароткае мінала лета,
Гулі настылыя масты,
Я прабіваў кайлом кюветы
Ў пластах адвечнай мерзлаты.

За пазухай мая гарбушка
Заледзянела навылёт,
І напалоханая птушка
Падняцца не магла ў палёт.

Паўзла за снежнай змейкай змейка
Па шпалах і па галышах,
І пад дзіравай целагрэйкай
Трымцелі сэрца і душа.

За штабелямі смольных шпалаў,
Каля датлелага кастра,
Неспадзявана прашаптала
Мне міласэрная сястра:

«Сядай, пагрэйся хоць хвілінку —
Тут не пранізваюць вятры...»
Яна і з крыжыкам касынка
Да гэтай помняцца пары.

Сястра лячыла нашы раны
І суцяшала, як магла,
І ласкай кожнага старанна
Ад лютай сцюжы берагла.

Калі ёй снег завейваў вейкі,
Я хукаў з радасцю на іх,
І пад дзіравай целагрэйкай
Было аж горача ўдваіх.

Даўно абкатаныя рэйкі
Гудуць на Захад і на Ўсход,
Цяпло казённай целагрэйкі
Я ўспамінаю з году ў год.

Цяпер сястра жыве далёка,
І часам я ў лістах прашу,
Калі мне вельмі адзінока:
«Хоць словам адагрэй душу».

## СІНЯЯ НОЧ

Ты помніш тую ноч, і сіні снег,
І месяц над замеценай тайгою,
Што за аблокамі знікаў, то бег,
То зіхацеў пад белаю дугою?

Настылы наст зразалі капыты,
Храплі ў сумётах і сівелі коні.
Я, заінелы, хукаў, каб і ты
Не застудзіла шчокі і далоні.

Мы марылі пра цёплую страху,
Сачыў за намі сіні месяц зорка,
І на яліне, быццам на штыху,
То ўспыхвала, то патухала зорка.

## НЯСТАЧЫ

Колькі б ні жыў чалавек,
Колькі б ні марыў,
Усё яму мала:
Радасцей мала
І мала дабра,
То сонца яму не стае,
То дажджоў і расы,
Пяшчотных світанняў
І радасных дзён не хапае,
Водару жытняга поля
І чыстай крынічнай вады,
Святла і спатканняў з каханаю мала,
Усяго, што яшчэ на зямлі засталося,—
мала:
Высокай травы у рамонках і слёзках,
Кування зязюлі
І шуму зялёнага мала,

Спякотных начэй таямнічых — замала,
А некаму хлеба заўжды не стае,
І смага скрывавіла вусны,
Свядомасць мутнее ад гора,
А прагу жыцця і яму не адолець.
І толькі ужо на апошнім прыпынку
Чалавек разумець пачынае,
Як мала зрабіў,
І часам не тое, што трэба:
Заўсёды збіраўся,
Усё адкладаў напасля,
А на самае важнае часу заўжды
не ставала.
На мітусню выстарчала,
На марныя спрэчкі — хапала,
А жыць для людзей, для зямлі,
Што яго ўзгадавала,
Ніяк не ўпраўляўся.
Збіраўся, збіраўся,
Усё адкладаў надалей.
І вось на апошнім прыпынку заўважыў,
Што ўжо не паспее нічога,
І плача, і сам дакарае сябе.
Сыходзячы з кругу, другім пакідае
Неўзаранай вясной
Захмызелае поле
І мёртвую рэчку,
Недапетыя песні і казкі,
Забытае слова,
Што некалі, можа, ўваскрэсне.
Пакутуе і дакарае сябе,
Што марна патрачаны сілы,
Каб цешыць сваё
самалюбства,
Мільгаць
на вірах шумавіннем,
А шчасця сапраўднай
натхнёнай работы
Заўсёды яму не ставала.

Усім аднаго не хапае —
*жыцця.*
Праходзіць яно непрыкметна.
А трэба пражыць яго так, каб сляды
Ніколі не змылі дажджы і гады.

## ПОШУКІ

Я марна вобмацкам блукаў,
Каб толькі выйсці на дарогу,
Але хапалі за рукаў
Шыпы шыпшынніку і глогу.

Я прадзіраўся праз гушчар,
Зрываўся з нечаканай кручы,
І лезла прывідамі ў твар
Замшэлае сухое суччa.

Ды раптам выбіўся ручай
З маленькай чыстае крыніцы.
«Хутчэй выводзь і выручай
Да змроку і да навальніцы!»

Павёў ручай па хмызняку,
Праз перавалы і парогі
І адшукаў сабе раку,
А мне — шырокую дарогу.

Лугі зарэчныя гулі,
Заранка задуменна пела,
І людзі добрыя былі
І гаварылі зразумела,

Лілося роўнае святло,
Бялела дальняя дарога...
Цяпер мне радасна было
І крыўдна за сябе самога.

## ЗОРНЫ СНЕГ

Пад сінім месяцам на мосце
Сышліся нашыя шляхі,
І нас паклікалі у госці
Зачараваныя снягі.

Пабеглі белымі лугамі
Мы ў заінелыя сады,
І замець зорнымі снягамі
Укрыла свежыя сляды.

Я праз гады на тым жа мосце
Спыніў гарачага каня:
І месяц, як у маладосці,
І зорны снег, і цішыня.

## ГУКАЕ ЛЕТА

З камандзіроўкамі паўсвету
Аб'ехаў я даўным-даўно,
Але дамоў гукае лета
І вецер стукае ў акно.

Паклікалі бары Палесся
І вербы ціхае Пцічы,
Дзе і цяпер у паднябессі
Плывуць гусіныя ключы.

Паклікалі густыя травы
Мяне ў даспелыя лугі,
Дзе, як шаломы вечнай славы,
Пасталі статныя стагі.

Адкіну клопатныя справы
І палячу ізноў туды,
Дзе зараслі густой атавай
Мае забытыя сляды,

Туды, дзе зведаў смак скарынкі,
Дзе гора з радасцю было,
Дзе вечарынкі і дажынкі
З сяла вадзілі у сяло...

Я знаю лонданскае Сіці
І Елісейскія палі,
Але расказваць не прасіце,
Бо лепш няма маёй зямлі.

## СНІЦЦА І СНІЦЦА МАЦІ

Яна ў мае святыя сны
Глядзіць журботнымі вачыма,
І напярэдадні вясны
Яе суцешыць немагчыма.

Яна і летам, і зімой
Гаворыць з ласкай і папрокам,
Што ледзь пазнала воблік мой,
Хоць і хадзіла крок за крокам.

Яна ў трывожныя гады
Маім пакутавала горам
І ледзь прыкметныя сляды
Шукала за сцюдзёным морам,

Прайшла са мной святло і змрок,
Балела мне — і ёй балела,
Ламала рукі: «Ой, сынок,
Як галава твая збялела,

Агеньчык у вачах патух,
Душу паранілі нягоды.
Як толькі твой замкнецца круг,
І я растану назаўсёды,

Нібы сняжынка на вадзе,
Як дым, як месячная кладка...
А я ж намнога маладзей
Цябе, ссівелае дзіцятка».

Я суцяшаю і хлушу
Пра поспехі, а пра няўдачу,
Як у маленстве, не кажу,
Што і цяпер нямнога значу.

У светлым і ў трывожным сне
Непадуладнымі начамі
З надзеяй маці на мяне
Глядзіць журботнымі вачамі...

## КАНТРАСТЫ

Аэрапорты і вакзалы,
Цяплушкі, баржы, караблі,
Узлёты, страты і правалы
На ўсіх маіх шляхах былі.

Без самалюбства, без адчаю
Усё прымаў, усё сцярпеў —
Атрутны горыч малачаю,
Папрокі і хвалебны спеў.

Я падаў, калі мог не ўпасці,
І вось спасціг, як навіну:
Каб ведаць, што такое шчасце,
Патрэбна гору знаць цану.

## ГЛУХАТА

Мы слухаем голас касмічных вышыняў,
Мы бачым лавіны каўказскіх вяршыняў,

Захмарны Тыбет і паломнікаў Ганга
І такт адбіваем бразільскаму танга.

Сухумскія ночы, нарыльскае ранне —
Усё ажывае на нашым экране.

Мы любім, калі зазвіняць кастаньеты,
І плачам над лёсам няшчаснай Джульеты.

Мы многае чуем, мы многае бачым
І верым, што нешта для некага значым,—

Сваё вызначаем і месца, і крэда,
І толькі не чуем, што гора ў суседа.

## СПАЛЕНЫЯ КНІГІ

Калі ад слова апаноўваў страх
І д'ябал д'ябла разумеў на мігі,
Каб спапяліць дашчэнту на кастрах
І геніяў, і праведныя кнігі,

Здавалася, што ўсё пайшло на глум,—
Старонкі датлявалі, як палова,
Палалі Жанна д'Арк і Авакум,
Але ні разу не сатлела слова.

А прарастала з году ў год,
Агнём кляйміла чорныя намеры
І гартавала з веку ў век народ
У непадкупнай, непахіснай веры.

Нам не забыць карычневай чумы,
Калі на плошчы і на маставыя
Ляцелі Шылера і Пушкіна тамы
І курчыліся ў прыску, як жывыя,

Ды не малілі літасці ў агня,
Ні ў ачмурэлых ад крыві вар'ятаў,
Бо ўваскрасалі з вогнішча штодня,
На свет вярталіся з-за кратаў.

Невінаватых можна пакараць
Ці стрэлам абарваць пачатак песні,
Асуджаныя ж кнігі не гараць:
Радок сатлее — ісціна ўваскрэсне.

## ЗАБЫТАЯ ДАРОГА

Прыйшла ты, як прывід, калісьці
І сэрца кранула да слёз,
Дарогу завейвала лісце
Даспелых рабін і бяроз.

Прыпомніўся профіль твой тонкі
І лёгкі пушок на шчацэ,
Рабіны настылыя гронкі
У вузкай гарачай руцэ.

А ты ж не кахала нікога,
Не слала лістоў і дэпеш...
Забылася тая дарога,
А ты ў маім сэрцы жывеш.

## ВЕЧНЫЯ ДЗЕЦІ

> У другую сусветную вайну загінула 13 мільёнаў дзяцей.
>
> *З газет*

I

Магіла невядомага дзіцяці
Драсёнам і асотам зарасла,
Яе адведаць не прыходзіць маці
Ні з бліжняга, ні з дальняга сяла.

Глядзяць рамонкаў сонечныя вочы,
І жаўрукі звіняць да забыцця,
Расу і зоры асыпаюць ночы
Над ссечанай галінкаю жыцця.

Магілу невядомага дзіцяці
Дажджы размылі, заглушыў быльнёг,
Не ўлічана яна ў ваенкамаце.
А колькі іх на ростанях дарог?!

II

Ніколі не стрэнеце тых,
Што зніклі ў траншэях і ў дыме,—
Трынаццаць мільёнаў святых
Навек засталіся святымі.

Іх кулямі ссекла вайна,
Накрылі сцюдзёныя хвалі,
У пекле старога гумна
Яны назаўжды адпалалі.
Яны у вайну не гулялі.

І ява, і светлыя сны
Іх клікалі ў зорныя далі,
Ад першай вясны да вайны
Іх добрыя маці люлялі.
Яны у вайну не гулялі.

А з імі згуляла вайна
Крывавыя страшныя жарты,
Агнём спапяліла яна
Ласкавых, адважных і ўпартых,

Развеяла прывіды іх
І праведны попел па свеце —
Да родных парогаў сваіх
Не вернуцца вечныя дзеці.

Надзеяй, апорай Зямлі
З пялёнак яны выраслі,
Ды чорнай травой прараслі,
Калючым шыпшыннікам сталі.
Яны у вайну не гулялі.

III

Хатынь, Пірчупіс, Хірасіма,
І Бухенвальд, і Саласпілс,
У кожнага перад вачыма
Жалобны памінальны спіс

Дзяцей, што мёртвымі вачыма
Глядзяць з далёкай даўніны.
За іх ніколі немагчыма
Нікому даравань віны,

Што ў апраметную мільёны
Загналі па кругах крутых.
Пісаць бы з тых дзяцей іконы,
Святей бы не было святых.

Ніколі і ніводнай маці
Сваіх не выплакаць пакут
Па родным і чужым дзіцяці,
Што катам вынеслі прысуд,
Што і цяпер пытаюць:

«Людзі,
Няўжо яшчэ такое будзе?»

## ПРАЦЯГ

У буднія дні і на свяце,
Адна і ў натоўпе людзей
Дзіця маладзенькая маці
Да стомленых туліць грудзей.

Хоць рукі і ногі здранцвелі,
А ношка з гадамі лягчэй.
Нарэшце, як сон, адляцелі
Бяссонні бясконцых начэй.

Цішком усміхаецца маці,
І туліць, і песціць дзіця,
Каб толькі ніколі не страціць
Працяг і надзею жыцця.

На свеце сягоння трывожна,
А маці не траціць надзей,
Таму, што не верыць не можна
У розум сумленных людзей.

## АБАРОНЦЫ

Бяжыць унук за мячыкам, за сонцам,
І жаўрукі заходзяцца над ім.
А я баюся, каб пякельны стронцый
Жывое ўсё не перавёў на дым.

Бяжыць унук пад белыя аблокі
І забівае сам сабе галы,
І добра, што не бачыць, як здалёку
За ім цікуюць хіжыя ствалы.

Яму спяваюць раннія салоўкі,
А ён яшчэ не ведае таго,
Што ўжо даўно усе боегалоўкі
Нацэлены на нас і на яго.

Што ж ён зрабіў? Каму ён замінае?
За што за ім такі забойчы гон?
Што мы ў агні, што кожны з нас канае,
Трызніць і днём і ноччу Пентагон.

Штампуюць смерць ці д'яблы, ці вар'яты —
Сляпое атамнай дзяржавы каралі.
Даўно пара, каб за муры і краты
Забойцаў і вар'ятаў адвялі.

Не бойся, ўнук. За мячыкам, за сонцам
Смялей бяжы ў даспелыя палі:
Ёсць у цябе на свеце абаронцы,
Ёсць мудрасць і сумленне на Зямлі.

## РАЗМОВА З АЛЯКСЕЕМ ПЫСІНЫМ

Пражытага штодня цяжэе ноша,
І ўсё глыбей разоры на ілбе.
А што ў тваёй дывізіі, Алёша?
Ты пачакай, мы прыйдзем да цябе.

Твой голас не замоўк і не замоўкне.
Пакуль мы тут, не пацішэе ён,
Пакуль увосень пад дажджамі мокне
У Краснаполлі адзінокі клён,

Пакуль з арбіты не сышла планета,
І ў бой ідзе дывізія твая,
Каб не было павек сканчэння свету,
Каб не замоўкла песня салаўя,

Каб на світанні выпала пароша,
Сняжынкі раставалі на губе...
Ну, што ў тваёй дывізіі, Алёша?
А ў нашай...
Пуста без цябе.

## ВОСЕНЬСКАЯ ПОШТА

Я шлю табе асеннія лісты —
Апошнія старонкі лістапада,
І ўсё бядую, што далёка ты,
Што мне твая абрыдзела пасада,

Што надакучыла пісаць лісты,
І спадзявацца, і чакаць, як госця,
Паветраныя будаваць масты
І хвалявацца, як у маладосці.

А ты ляціш кудысьці па начах,
Трасешся на вазах і ў самазвалах,
Ідзеш па бездарожжы, па карчах,
Па заінелых сцежках і па шпалах:

Спяшаешся да некага з дабром
У навальніцу, спёку, непагоды...
А ты усё ж была маім рабром
І заставайся Евай назаўсёды...

Надзейны паштальён мой — лістапад —
Прыносіць мне твае лісты на свята,
І ні адзін не вернецца назад,
Свайго не адшукаўшы адрасата.

Чаму ж адказу ад цябе няма,—
Трывожыць невядомая прычына.
Няўжо дарогі замяла зіма?
А без цябе мне дыхаць немагчыма.

## ДОЎГІ, ДОЎГІ ВЕЧАР

Мы аставаліся ўдваіх
У золкі вераснёвы вечар,
І да світання не аціх
За вокнамі вільготны вецер.

Гарэў аранжавы начнік
Пад непабеленаю столлю,
І мне здавалася, што знік
У сэрцы напамінак болю.

На скроні легла сівізна,
Відаць, не без прычыны,
А ў памяці жыве вясна
І сінявокая дзяўчына

З маіх яшчэ бязгрэшных дзён,
З мае юначае трывогі...
Хоць і выразна ўжо відзён
Канец бясконцае дарогі.

Світае. Жоўтыя лісты
Гартае вецер на тэрасе,
А для мяне дзяўчынкай ты
Так назаўжды і засталася.

Нам не астудзяць скразнякі
Душу ні заўтра, ні сягоння,
Бо цеплыня твае рукі
Заўсёды у маёй далоні.

Сукенку белую надзень,
З далёкай, першае сустрэчы,
Каб помніўся вясновы дзень,
Каб доўжыўся асенні вечар,

І будзь такою, як тады
Да вераснёвага світання,
Пакуль далёка да бяды,
Пакуль яшчэ не развітанне.

## РОСТАНІ

На ростанях помнік.
                                    І макі
Да позняга лета цвітуць,
Мільгаюць дарожныя знакі,
Машыны гудуць і гудуць,

Шумяць маладыя прысады,
Рабінавы сыплецца цвет.
Спачыць надвячоркам прысяду
Ў зарослы травою кювет.

На помніку — зорка і даты,
Шыпшыннік прабіўся з зямлі.
А сэрца смыліць, што салдаты
Дадому дасюль не дайшлі.

## УЗНАГАРОДЫ

Гвардзейскія адзнакі, медалі
За смеласць, за адвагу і за раны
І баявыя ордэны далі
З высокім званнем — ветэраны.

Я сілу і сумленне аддаваў
Для Перамогі па вышэйшай мерцы,
Адной бядой з усімі бедаваў
І атрымаў аж тры рубцы на сэрцы.

## РАЗВІТАННЕ

Красуе поле. На світанні
Плыве, плыве зялёны дым...
Вось і настала развітанне
З сялом і з жытам маладым.

Не знаю, ці сюды вярнуся,
Ці завітаю зноў калі.
У пояс жыту пакланюся
І любай дзедаўскай зямлі,

Прыпомню даўнія аблогі,
Лужок з пахіленым стажком,
І растанцовыя дарогі,
І крыж з кужэльным фартушком.

Пайду сцяжынкаю тугою
Па затуманенай траве,
І ўсё навекі дарагое
Ізноў у сэрцы ажыве.

## ДАЛЁКАЕ РЭХА

Можа, гэтая сустрэча —
Развітанне назаўжды,
І асенні зорны вечар
Ты прыпомніш праз гады,
Як дрыжалі нашы рукі,
Як маўчалі я і ты
І не знаі, што разлукі
Спаляць нашыя масты.
Дагарэлі. І сцяжынкі
Лебядою зараслі,
І на познія дажынкі
Мы з табою не прыйшлі.

Я гукаю, ты гукаеш.
Зоры падаюць да дня...
Вось і рэха замаўкае.
Ці-шы-ня.

## ПРЫВІТАННЕ АД НАС

Гаркаватым тапаліным цветам
Юрмалу асыпаў шчодры май,
І цяплом ударыла, як летам,
Хоць пейзажы крымскія здымай.

Сонечны саланаваты вецер
Коціць хвалі і пылок нясе,
Коцікі з ракітавага вецця
Гоніць па прытоптанай касе.

Зарастаюць асакою дзюны,
Хвалі запалоскваюць сляды,
Рассякае вецер хлопец юны
Зранку каля самае вады.

Выбухамі срэбраныя пырскі
Пырхаюць з-пад загарэлых ног,
І за даляглядам тонкай рыскай
Ён знікае, як антычны бог.

Пры любой спяшаецца пагодзе
На ўзбярэжжа ён у пэўны час,
А дабегшы ў новае стагоддзе,
Прывітанне перадасць ад нас.

## ВЕРАСОВЫ ЦВЕТ

Вось і верас цвіце,
　　　　значыць,— восень за першым узгоркам.
Адшумелі ліпнёвыя ліўні,
　　　　　　　　　　　　　дажынкі спраўляе зямля,
Цягне з вогнішча дымам, ссівелым і горкім,
Пазірае замглёная пушча здаля.

Пахне хмелем пасохлым і спелай калінай,
Сталі доўгія ночы, а дні карацей,
Паплылі туманы над пажоўклай далінай,
За пагоркам зазімак, а верас цвіце.

## ПЕРШАЕ СЛОВА — АПОШНЯЕ СЛОВА

Матчына мова —
Спрадвечная мова,
Для ўсіх з аднаго
Пачынаецца слова —
Ма-ма.
А потым — і хлеб, і Радзіма,
І неба, ў якое
Да скону глядзім мы,
Усмешка, і слёзы,
І шчасце да болю,
Праклёны, і клятва,
І вольная воля,
І хмельная песня
З тугою на свяце,
І споведзь ссівелай
Нявесты і маці.
Спрадвечнае слова
Гранілі вякамі

Гарачымі вуснамі,
А не рукамі,
На сцюжы пякельнай
Яго гартавалі,
За пазухай грэлі,
Ў палон не здавалі.
Спрадвечнае слова
Мужнела ў падполлі,
Калёнай стралою
Ляцела па полі,
Яго берaглі
Мацяркі і сыны,
Яно прарастала
З душы Скарыны,
І ў кожнае добрае
Сэрца запала.
З пявучага слова
Радзіўся Купала,
Азваўся на грозны
І ласкавы голас
З даспелае нівы
Зажураны Колас.
З далёкай дарогі
Вяртанне Максіма
Вянком з васількоў
Сустракала Радзіма,
Пасля развіталася
З ім напрадвесні.
А голас і сэрца —
Навекі у песні.
О, матчына мова —
Спрадвечная мова,
І першае ў ёй
І апошняе слова,
Якое ніколі
Нікому не страціць,—
Маці-Радзіма,
Радзіма і маці.

## ЦІШЫНЯ

Наўкол такая цішыня:
Чуваць, як падаюць пялёсткі,
Заснулі стомленыя вёскі,
І салавей замоўк да дня.

А недзе бліскаюць зарніцы,
Далёка глуха загуло...
Каб толькі болей не было
Неспадзяванай навальніцы.

## ПАРАТУНАК

Ад крыўды, што раніць да болю,
Адзіны ратунак знайду:
На золку ў жытнёвае поле
Па роснай сцяжынцы пайду.

Тут — вечная праўда святая
Зямлі і натруджаных рук,
І вольна над жытам лятае
І плача шчаслівы жаўрук.

## ЦІХАЕ РАННЕ

Ранак. Прадзьмутыя дзюны і сосны.
Хваля таемна паўзе наўкасы.
Ціха, туманна, ружова і росна,
Нават крумкач зіхаціць ад расы.

Тонкі пярсцёнак з туманнага мора
Вынесла чайка ружовым крылом,
Сосны ірдзеюць, палае прастора
Цёплым, лагодным, глыбінным святлом,—

Сонца над морам! Сонца над светам!
Ранак прарочыць ізноў цішыню.
Толькі трывожна, бо некалі летам
Свет захлынуўся у пекле агню.

## ПАЭТЫ

### I

У сапраўднага паэта
За душой — ані граша,
Але толькі не пра гэта
Непакоіцца душа

І баліць, баліць начамі,
Што не сплочаны даўгі,
І дачасна пад вачамі
Леглі цёмныя кругі;

Што бываюць рэдка святы
У суседзяў і ў сяброў,
І нібыта вінаваты,
Што таварыш нездароў,

Што на свеце неспакойна,
Што лажыцца кожны дзень
Ад малых далёкіх войнаў
На душы вялікі цень.

І трывога, і трывога
Не дае заснуць здаўна,
Што стаіць каля парога
Недзе новая вайна.

У сапраўднага паэта
Сэрца рвецца і баліць,
Каб нягоднікі планету
Не паспелі спапяліць.

Ён за будучае свету
Непасільны груз нясе.
А сапраўдныя паэты —
Людзі добрыя усе.

II

Адкуль яны, такія вершы?
І як яны да нас ідуць?
Ад болю, што вар'яты «Першынг»
На старты новыя вядуць,

Ад неспакою, ад трывогі,
Што з кожным новым днём расце,
Бо нехта недзе «перамогі»
Над цэлым светам захацеў

І марыць нас на попел сперці,
Усіх застрашыць і скарыць,
Хоць сам на ўласным полі смерці
Раней за іншых дагарыць.

Адкуль, трывожны верш, прыйшоў ты?
Пра боль сказаць даўно карціць
І Белы дом дакладней жоўтым
На ўсю планету абвясціць.

III

Не толькі той, што піша вершы,
Абраннік лёсу і паэт,
А той, што новае завершыць
І пракладае ў заўтра след.

Хто і ў натхненні апантаны,
Хто ўмее крыўды забываць
І для каго чужыя раны
Так, як і ўласныя, баляць.

Непадуладны горкай скрусе
І непахісны у жыцці,
Такі хоць на паўкроку мусіць
За ўсіх наперадзе ісці.

IV

Жывыя сэрцы б'юцца вечна
Ў сумленных праведных радках.
Яны з душою чалавечай
Пераклікаюцца ў вяках.

Паэты з веку ў век збіраюць
Радкі, як росы на траве...
Паэты рана паміраюць —
Павек паэзія жыве.

## АГРАНОМУ

Відаць з машыны толькі лес,
Палеткі прыдарожныя і сёлы.
Калі б ты з мяккага сядзення злез,
Не быў бы гэтакі вясёлы.

Адчуў бы шчодрасць прагнае зямлі
На клопаты людскія і на ласку,
Напомнілі б даспелыя палі
І пра твае правы, і абавязкі.

Ты рапарты закрэсліў бы свае,
Забыў бы незаслужаныя святы,
Пабачыў бы, чаго тут не стае,
Убачыў бы не зводкі, а зярняты,

Што пераспелі, што плывуць на дол,
Што закрычаць гатовы ўголас,
Што просіцца на гаспадарскі стол
Зярнятка кожнае і колас.

Выходзь у поле,— жні і сей,
Спраўляй заслужаныя святы,
Каб сталі радаснымі ўсе,
А кожны — сыты і багаты.

## СУМЛЕННАЕ СЛОВА

У стыні чаромхавай — спеў салаўіны:
Прызнанне, трывога і шчэбет да слёз,
Чаканне сустрэчы, кахання хвіліны,
А ў песні кароткі бясклопатны лёс.

Пасля — не да песень у долі птушынай:
Сагрэць, пракарміць і падняць на крыло
Нашчадкаў маленькай сям'і салаўінай,
І ў вырай правесці нягодам назло.

Пад шызаю хмараю чайкі ў адчаі
То стогнуць, то плачуць на ўсе галасы,
Іх бляскам і громам маланка страчае
І гоніць да вузкай прыморскай касы.

Гаі і лугі снегапад зацярусіць,
Гусінае пер'е застыне ў вадзе,
І лебедзь лябёдцы ніколі не схлусіць,
Сарока дарэмна паклёп не ўзвядзе.

Я веру ў сілу сумленнага слова,
Што маці спрадвеку да скону дала,
Таму разумею птушыную мову —
І плач перапёлкі, і клёкат арла.

## НІКОЛІ

Аж заходзіцца сэрца ад шчасця,
Як убачу лугі, і лясы,
І гасцінцы, адкрытыя насцеж,
І ў палёх — каласы, каласы,

Курганы і крутыя узгоркі,
Студню, вочап з кляновым вядром,
Сіняваты, павольны і горкі
Ядлаўцовы дымок над кастром,

І блакіт задуменных азёраў,
І паводкі рачулак і рэк,
І спрадвек незабыўнае гора,
І здабытае шчасце навек.

За ракою — дубы і балоты,
Векавечныя пушчы здаля,
Між аблокамі след самалёта,
І самотны палёт жураўля.

Чую раніцай клёкат бусліны,
Бачу ніцыя вербы і стог,
І машыны, машыны, машыны
На асфальце палескіх дарог.

Я люблю завірушныя зімы,
Першы гром і начэй цішыню
І гляджу на прасторы Радзімы,
Быццам бачу усё ўпершыню.

П'ю з крыніцы гаючыя сокі,
Бачу любы да болю прасцяг
І на Доме урада высокі
Пурпуровы абветраны сцяг.

Кліча ўдалеч жытнёвае поле
І даспелай пшаніцы прыбой,
Бо ніколі, Радзіма, ніколі
Не змагу разлучыцца з табой.

## ЯК ПАМІРАЮЦЬ Я́КІ

Дзе зоры зелена гарацъ,
Дзе сівер і мароз калючы,
Я́к узыходзіць паміраць
На замяцеленыя кручы.

Яго заносіць снегапад,
Сіберны вецер ноздры коле,
Ды састарэлы *я́к* назад
Ужо не вернецца ніколі.

Чырвоны месяц з-за гары
Глядзіць на стромыя адхоны.
І доўгі рык, апошні рык
Замоўкне толькі пасля скону.

Засцеле сцежку снежны дым,
І толькі беркут у палёце
Арлам раскажа маладым,
Як бык сканаў на адзіноце.

## НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ

Ноччу выкінула мора
На прытоптаны пясок
Сведак нечыяга гора —
Чаравік і паясок.

Можа, хтосьці, змыты з трапу,
Не паспеў сказаць «бывай»
І адразу босы трапіў
Або ў пекла, або ў рай.

Вал за валам коціць мора,
Чуцен чаек плач і крык.
Змыла хваля сведак гора —
Паясок і чаравік.

## ЗАПАВЕТ НАШЧАДКУ

Што не заўсёды сытна есца,
Не наракай, не галасі,
Не рвіся на чужое месца,
Чыноў высокіх не прасі,

Сваю дакладна ведай справу
І месца ўласнае трымай,
А незаслужанае славы
Не дамагайся, не прымай,

Не надта захапляйся бытам
І светлых не губляй надзей,
Жыві сумленна і адкрыта
Не для сябе, а для людзей.

Яны заўважаць і ўзважаць,
Яны цябе не падвядуць,
Пра ўсе твае заслугі скажуць
І месца па табе дадуць.

Не бойся цяжару і зморы,
І волі не давай журбе,
І памятай: заўсёды ў горы
Прыходзяць людзі да цябе.

## КУПАЛЛЕ

Славу Купалу пяём, пяём...
*З народнай песні*

На Купалле зорна, зорна,
На Купалле росна, росна,
На Купалле хлопцу горна,
А дзяўчыне млосна, млосна.

Дагарaць кастры над рэчкай,
За вадою, за туманам
Паплыве за свечкай свечка,
За вянком вянок — да Яна.

Можа, сыдуцца вяночкі,
Загайдаюцца на хвалі?
Ой, кароценькія ночкі!
Ой, трывожнае Купалле!

Ціха дзеўчына спявала
«Хоць кароценькая ночка,
Адгукніся мне, Купала,
Каб сысціся удваёчку,

Каб пабегці па пракосах
Непрыкметнымі, як здані,
Каб ніхто слядочкаў босых
Не разгледзеў на світанні.

Перапёлкі за дубровай,
У нявыпрастаным жыце
Варажбою ці замовай
Нашы сэрцайкі звяжыце».

Сонца выплыла па росах
І купалася ў тумане,
Зіхацела ў спелых косах
У Купаўкі на выданні.

Доўгі век ім накувалі
Дзве зязюлі ў жытнім полі:
Ні Купала, ні купаллі
Не забудуцца ніколі.

## КОЛАС

Ён узышоў на нёманскай раллі
З маленькага адборнага зярняці.
Слязьмі і потам палівала маці
Яго на поснай, не сваёй зямлі.

Ён прагна пацягнуўся да святла —
Сцяблінка ледзьве-ледзь пласты
прабіла
Ад градабою дзічка засланіла,
Ад згубы перапёлка зберагла.

Закаласеў, закрасаваў,
высока
Падняў над жытнім полем галаву:
Убачыў нашу ніву, і траву,
І сонца, і ружовыя аблокі.

У навальніцу буйныя вятры
Кацілі збожжа ўспененыя хвалі,
Але высокі колас не зламалі
І нават не сагнулі без пары.

Ён выстаяў і выспеліў зярняты,
Яму шапталі казкі васількі,
Яго віталі крыллем ветракі,
Здалёк з надзеяй пазіралі хаты.

Шумела жыта, і каціўся голас
То грозны, то пяшчотны ў цішыні,

Заходзіўся жаўрук у вышыні,
А песні жалю пеў даспелы колас.

Праз дым пажараў завітала свята
У нашыя прасторныя палі.
Вялікі Колас выспеліў зярняты —
Адвечны скарб для новае зямлі.

## ГАСПАДАРЫ ЗЯМЛІ

Зямны паклон гаспадарам зямлі,
Вядомым і пакуль што не вядомым,—
Аратым, сейбітам і аграномам,
Што нашыя праславілі палі.

Зямны паклон, падзяка і пашана
Усім, хто свежым хлебам корміць нас,
Хто кожны колас пестуе старанна,
Хто і арэ, і сее ў добры час.

Хто на світанні па іскрыстых росах
Выходзіць у даспелыя лугі,
Кладзе да сонца роўныя пракосы,
Пад неба ставіць стромкія стагі.

Зямны паклон нястомным трактарыстам,
Пашана добрым, дужым іх рукам,
Даяркам пажаданне галасістым,
Каб надаілі рэкі малака,

Каб шчокі ружавелі на світанні,
Каб сонечныя слаліся шляхі,
Каб у пару прыходзіла каханне,
Каб талакой хадзілі жаніхі.

Каб яблыкі, як у раі, віселі,
Каб старшыня і брыгадзір быў рад,
Што адгуляўшы новае вяселле,
Патрэбна пашыраць дзіцячы сад.

Каб жыта разлівалася, як мора,
Каб каласы ўмалотныя былі,
Каб з раніцы да ночы камбайнёры
Вялі даспелай нівай караблі.

Усе жадаюць шчыра, каб заўсёды
Духмяныя і шчодрыя дары
Прыносілі увосень садаводы
І мудрыя сівыя пчаляры,

А брыгадзіры дыктавалі небу,
Каб над палямі ўпоперак і ўдоўж
Свяціла сонца толькі калі трэба,
А калі трэба, ліўся цёплы дождж.

Каб кожны быў вясёлы і шчаслівы,
Сваіх знайшоўшы ў полі салаўіх,
Каб хлопцы пелі сола або трыо,
А не дзялілі пляшку на траіх...

Каб над калгасам радасна звінелі
Да ночы маладыя галасы,
Каб не «шумеў камыш», а каб шумелі
У полі наліўныя каласы,

Каб засыпала восень у засекі
Ад году ў год багаты ураджай,
Каб сырадою разліліся рэкі,
Каб славіўся багаццем родны край,

Каб зарунела жыта напрадвесні,
Каб славіліся коласам палі,
Каб не сціхалі радасныя песні,
Зямны паклон гаспадарам зямлі!

## ЦЫГАНСКІ МАТЫЎ

Ападаюць лісты. Вецер стогне і свішча,
Пацягнула смалой з пераспелых бароў,
Я на ўзлессі шукаў і знайшоў папялішча
Незваротных, забытых цыганскіх кастроў.

Зарасла лебядой і макрыцай дарога,
Апаліла маланка паточаны пень.
Я прыплюшчыў павекі і ўбачыў старога
Цыгана адзінокі зажураны цень

І сухое аблічча з чырвонае медзі,
Што чаканілі сонца, мароз і вятры,
На трынозе — казан
і ланцуг на мядзведзі,
У сузор'ях і ў латках старыя шатры.

Адпалалі кастры, адзвінелі маністы,
Па кары аплывае густая смала,
З'ехаў табар даўно са старым гітарыстам,
І цыганская песня па свеце пайшла.

Не сціхаюць гітары і бубны ў эфіры —
Песня песню змяняе да самай зары,
І палаюць у зрэнках іскрыстай Земфіры
Незабыўныя змалку начныя кастры.

Лістабой пад дубамі спраўляе ігрышча,
На рудую траву асядае імгла,
Толькі скрыпень рыпіць
над сівым папялішчам
І дарога здзічэлай травой зарасла.

## ПАЦЯПЛЕННЕ

Паводкай набрынялая вясна
Раскоціцца зялёнай навальніцай,
На сонцы зарунее ярына,
Каб зашумець даспелаю пшаніцай.

Працягам неспакойнага жыцця,
Замешаныя на жытнёвым хлебе,
Зямныя спадарожнікі ляцяць
З адвечнымі сузор'ямі у небе.

Сваю шукаю зорку ў вышыні,
Гляджу, і мару аб наступным леце,
І ведаю, што стане ў нашы дні
Ад чырвані сцягоў цяплей на свеце.

## НЕСПАДЗЯВАНЫ СНЕГ

Сягоння выпаў першы снег.
Магчыма, заўтра ён растане.
Мне сцежку заяц перабег
І памахаў на развітанне.

А снег ідзе, ідзе, ідзе
І зацярушвае гасцінцы,
На цёмнай растае вадзе,
Гайдаецца на чарацінцы,

Ляціць на дол з пакатых стрэх,
Завейвае сухія пожні
Неспадзяваны першы снег,
А можа, ў некага — апошні.

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Грымела, бліскала, гуло,
Ажно хісталіся званіцы.
Паўвека, мабыць, не было
Такой пякельнай навальніцы.

Ламала вецце на дубах,
Раўло над полем і над садам,
Па шчоках секла, па губах
І па спіне кантовым градам.

Не затуліцца, не ўцячы
І не схавацца ў чыстым полі —
Маланкі свішчуць, як мячы,
І крышаць крохкія таполі.

Ды раптам сціхлі дождж і гром,
Нябёсы ў пырсках пазалоты,
І піша вогненным пяром
Вясёлка песенныя ноты.

Прабіўся сонечны прамень,
Яшчэ барвовы і халодны,
А заўтра будзе ясны дзень
І надвячорак мой пагодны.

## У ДУБУЛТАХ

Будзе мора шумець,
Будуць чайкі крычаць над вадою,
Будзе сонца знікаць
За блакітнаю рыскаю хваль.
Знікну некалі я,
І не будзе бядою

Адыход неспадзеўны
Ў замглёную даль.
Будуць чайкі крычаць
Надвячоркам і ўранні
Каля доўгай пясчанай
Вільготнай касы,
І знікаць на дасвецці
Ў ружовым тумане,
І ў трывозе здалёк
Падаваць галасы.
Хутка бераг зашэрхне,
І хвалі застынуць у змроку,
Заінелыя чайкі
Замоўкнуць зімой.
Я сюды не вярнуся,
І, можа, здалёку
Нехта некалі
Голас пачуе і мой.

* * *

Трымціць на вецці павуціна,
Барвовы дагарае клён,
А мы з табою, Валянціна,
Усё чакаем светлых дзён.

Ці дачакаемся? Хто скажа?
Ці ёсць надзея, ці няма?
Няўжо неспадзявана ляжа
На скроні лютая зіма?

А мы сцяжынку адшукаем
У светлыя зямныя сны,—
Перазімуем, прычакаем
Адлігі, сонца і вясны.

## КАРОТКАЕ ЛЕТА

Усе мы аб вечнасці марым
На самым пачатку дарог,
А лёс нечаканым ударам
Ссякае і звальвае з ног.

Ні пропуска і ні білета
У вечнасць нікому няма...
Такое кароткае лета!
Якая даўгая зіма.

## ПАЗВАНІЦЕ...

Цэлы тыдзень маўчыць тэлефон,
Нават сонца паблякла ў зеніце,
Адзінокі асыпаўся клён...
Пазваніце вы мне, пазваніце.

Замятае і двор, і балкон
Парудзелае мокрае лісце,
А ў мяне ўсё маўчыць тэлефон,—
Пазваніце вы мне, пазваніце.

Дождж шуміць і шуміць па сцяне,
Вы мой сум і тугу разганіце,
І калі не забылі мяне,
Хоць апоўначы ўсё ж пазваніце.

## НАВОШТА Я ПІШУ

Пішу. Навошта я пішу?
Каб толькі выказаць душу,
Усё, што радуе і цешыць,
Каб галаву сваю не вешаць
У горы часам і ў бядзе
І каб не скардзіцца нідзе.
А вы спытаеце:
«Навошта
Тваю прыносіць споведзь пошта?
Нашто такія тыражы?
Ты лепей родным раскажы.
Яны цябе суцешаць, можа,
А нам твой боль не дапаможа,
І радасць радасцю не стане,
Бо нам хапае хвалявання,
І радасцей сваіх даволі
На людная вуліцы і ў полі.
Такі мізэрны твой набытак!»
Сказаў непрафесійны крытык,
А прафесійны — пахваліў,
Алею трошачкі падліў,
Пасля «але», страфу паганіў,
Бо без пасады я і званняў.
Чаму ж такіх і не таптаць?
А варта кансультантам стаць,
Які не быў бы ты малы,
Не абярэшся пахвалы.
А я ўсё ж яшчэ пішу,
Магчыма, часам і грашу
Тварэннем не метафарычным,
Не надта бойкім і не зычным,
Але ніколі не схлушу,
І, можа, нечыю душу
Сагрэю хоць не надта новым,
Але сумленным, шчырым словам,
Такім, як *маці, поле, сонца*,
Як чыстая вада ў палонцы,

Як *вёсны, лета, восень, зімы,*
Як *неба* нашае *Радзімы.*
Калі ж радок мой не кране душу,
Нічога больш не напішу.

**МАЛІТВА**

Сцішылася шараю гадзінай
Стомленае поле і маўчыць.
Ад самотнай песні лебядзінай
На душы даўнейшы боль гарчыць.

Каласы схіліліся ў тумане,
Непрыкметны дождж ычак імжыць,
А ў мяне пакуль адно жаданне —
Да наступнай восені дажыць,

Каб ізноў убачыць наваколле,
Блізкае і знанае здаўна,
І паслухаць, як звініць над полем
Цішыні напятая струна,

Каб з узгорка нізка пакланіцца
Полю на чатыры стараны
І зямлі і небу памаліцца,
Каб дажыць да новае вясны.

* * *

Калі хлуснёю апраўдацца хочу,
Калі чужое гора не кране,
Тады з нябыту матчыныя вочы
З папрокам пазіраюць на мяне.

## КАХАНАЙ

Нет, не даётся смертному познанье
Чужого сердца...

*А. Міцкевіч, «Гражына»*

Прайшлі і над намі з табой навальніцы,
Мінулі нягоды, растала імжа.
Ты мне адкрывала усе таямніцы,
Але засталася загадкай душа.

## АРКЕСТР

...как слава в серебряных трубах...

*У. Лугаўской*

Калі зайграюць срэбраныя трубы
І загудзе пад крокамі шаша,
Ад хвалявання высыхаюць губы,
Калоцяцца і сэрца, і душа:

У памяці праносяцца тачанкі,
Мільгаюць эскадроны ў кумачы,
У галашэнні глухнуць калыханкі,
Калі трывогу трубяць трубачы.

Даўнейшы боль сціхае, нібы пошчак,
Бо ў кожным гуку — новы сэнс і змест,
Іграе маршы на ўрачыстай плошчы
Сярэбранымі трубамі аркестр

І кліча, кліча ў дальнюю дарогу,
Дзе свеціць сонца нават і ўначы,
Спяваюць гімны,
толькі каб трывогу
Ніколі не трубілі трубачы.

## ПЯТНАЦЦАЦЬ РЭК

Пятнаццаць рэк зліліся
як адна,
Шырокая і ясная
дарога,
І не відаць ні берагоў,
ні дна,
Ні водмеляў, ні рэчышча
старога.
Пятнаццаць рэк і сотні
ручаёў,
Вясёлых, гаманлівых
і трывожных,
Смяюцца і пяюць
на сотнях моў,
І зразумець усе
душою можна.
Пятнаццаць рэк
нясуць адна адной
Святло
і сілу прыгажосці,
І дзеляцца шчаслівай
навіной,
І запрашаюць сваякоў
у госці.
Пятнаццаць рэк імкнуцца
як адна,
Вялікая, шырокая
дарога,
І кожнаму відушчаму
відна
На кожным перавале —
перамога.
Атуленыя сонечным
крылом,
Адзінай воляй
злучаныя рэкі

Нязгасным апраменены
    святлом
Ад хваляў Енісея
    І Нурэка.
Глядзяць на іх
    з касмічнай вышыні,
З другіх галактык,
    вечарам і ўранні,
І бачаць нашы
    мірныя агні
І роўнае рубінавае
    ззянне.

## ТРЫ ТОНЫ

> На кожнага зямляніна прыпадае больш за тры тоны нітраталуолу.
>
> *З газет*

Мне часам сняцца ў пекле чэрці.
Пасля штодня душа баліць,
Што нада мной тры тоны смерці
Вісяць і могуць спапяліць

Са мною цэлыя кварталы —
Радзільны дом, дзіцячы сад.
Граніт рассыплецца трывалы,
Пачнецца атамны распад.

І не адчуем ноччу страх мы,
Не выскачым, а выцечам з муроў,
Калі паток густое магмы
Змяшае разам друз і кроў.

Пан прэзідэнт, ці не замнога
Тры тоны, і ці верыце вы ў цуд,
Што, молячыся д'яблу або богу,
Не вынесеце і сабе прысуд?

Што ж, скура ў вас таўсцейшая за нашу,
А бункер за сумленне трывалей.
Я гэта ведаю і вас не страшу,
Хачу спытацца толькі: «Што ж далей?»

Ці прага смерці зноўку стала звычкай?
Ці сцерліся крывавыя сляды?
Няўжо Зямля ў сусвеце знікне знічкай
І больш жыццё не вернецца сюды?

Вы з-за сваё зірніце агарожы
На неба, на расінку на траве,
На свет ласкавы і такі прыгожы,
На ўсё, што прагна любіць і жыве.

Няўжо ўтрая памножыце тры тоны,
Каб ад зямлі і знаку не было,
Каб вашыя хвалёныя «нейтроны»
І вас усіх развеялі на тло.

Пакуль яшчэ трымаемся трывала,
Намер вар'яцкі, можа, абміне,
Калі ж ракет самазабойцу мала,
Аддам тры тоны, што прызначыў мне.

## АКВАРЭЛЬ

Змоўкнуў шчэбет вераб'іны,
І шпакоў даўно няма.
Урадзілася рабіна —
Будзе лютая зіма.

Ноччу сажалка застыне,
Снег навісне на галлі,
І пасядуць на рабіне
Крутагрудыя гілі.

На дарозе клок саломы,
Быццам злітак дарагі,
І, як срэбныя шаломы,
За аселіцай — стагі.

Пералескі за смугою,
Як пражытыя гады,
Некранутай, дарагою
Вабяць памяццю сюды.

## НОЧ НА АДЗІНОЦЕ

Упарты дождж у вокны барабаніць,
Халодны, нудны, шэры і густы,
Шраціны кропель безнадзейна раняць
Асенняга асінніку лісты.
Па сценах дождж шуміць і днём і ноччу,
Ні месяца, ні зорак не відно,
Старая хвоя лапаю грукоча
У мокрае настылае акно.
На ганку кроплі тупаюць трывожна,
Бушуе вецця і лістоў садом,
Ці стукаецца, можа, падарожны
У мой лясны і адзінокі дом.
Пяе цвыркун, і дагарае свечка,
Парыпваюць маснічыны ў цішы.
Я тут адзін, і кожная насечка
Баліць і ные у маёй душы.
А іх усе ніколі не палічыш,
Не загаворыш, не загоіш іх.
У шыбіны ўзіраюцца аблічны
Маіх сяброўак і сяброў маіх,
Навекі юных, правых і няправых,
Сумленных і таропкіх назаўжды.
На стылых сцежках і шляхах крывавых
Гады сціраюць іхныя сляды,

Але яны заўжды жывуць са мною,—
Шумяць дажджом і веццем па сцяне,
Ніколі не мінаюць стараною,
А стукаюцца ў дзверы да мяне.
Іду на ганак. Той жа самы вынік —
Няма нікога. Вецер, не трывож.
Чырвоныя лісты атрос асіннік,
І тупае на ганку толькі дождж.

## «СПАДЧЫНА»

Знікаюць спрадвечныя словы
Ў вірах,—
Адзёнак і сцежар,
Сашнік і палова,
Даўно аўтастрадаю
Лічыцца шлях,
З калыскай знікае
Бяссоннае слова.

Хрыпатыя «магі»
Стараюцца пець,
Схаваўшы і смех,
І тугу ў касеце.
Што ж будуць у сэрцах
І ў памяці мець
На матчыну песню
Збяднелыя дзеці?

А можа, яе
З калыханкі пачаць,
Каб сэрца ізноў
Акрыяла ад шчасця.
І «Спадчына» будзе
Гучаць і гучаць,
Бо нельга яе перакласці.

## СЦЯГ

Аднойчы, седзячы ў гасцях,
Падданы нейкае кароны
Спытаў: «Чаму Дзяржаўны сцяг
У вас такі чырвоны?»

Я адказаў: «Бо навылёт
Прабілі кулі ў часе бою,
І ён у той славуты год
Наскрозь набрак жывой крывёю.

З тых пор палае ў вышыні,
Як чыстае сумленне,
Ён сэрцу кожнаму зрадні
У кожным пакаленні.

Яго на Полюсе ўзнялі,
Каб быў відзён усёй планеце,
І ён надзейна на Зямлі
І днём, і ноччу свеціць».

## ШЧАСЛІВЫ

Пытаешся, ці я шчаслівы быў.
А я даўно, даўно шчаслівы,
Бо свецяць зоры, дзень прыбыў,
Шумяць адлівы і прылівы,

Шчаслівы, бо людзей люблю,
Шчаслівы, бо надзейная дарога,
Шчаслівы, калі добрае зраблю
Не для сябе, а для другога.

## КРУГІ НАДЗЕІ

Калі кругі надзеі разышліся
Па каламутнай веснавой вадзе
І ў ясныя завоблачныя высі
Стары крумкач пракаркаў: «Быць бядзе»,

Пагнала навальніца нечакана,
Што не спыніцца, не прыстаць нідзе,
А ўслед грымелі грозна і чаканна
Чужыя боты — значыць, быць бядзе.

Пажар каціўся вогненнаю хваляй,
Крывавыя гарэлі пісягі,
Знявечаных і спаленых хавалі
Пяскі і завірушныя снягі.

Здавалася, што ўсё даўно сатлела,—
Чарнеюць толькі печы ды крыжы...
Ды перапёлка на мяжы запела,
І паплыло па дымным полі: *«Ж ы ц ь!»*

Жыць! Жыць і за жывых і мёртвых,
Чые сляды завеі замялі,
За несмяротных смертнікаў чацвёртых,
Што больш ужо не прыйдуць па раллі,

Жыць, каб усё, усё пачаць нанова,
Каб больш зямлю свінцовы град не сек,
Жыць, як жыве няскоранае слова
І самы мірны ў свеце чалавек.

## ЗРОК

З гадамі мой вастрэе зрок:
Усё відаць здалёк і зблізку —
Світанне і туманны змрок,
Сляза на чорным абеліску,

Прамень на трапяткім лісце
І на трыпутніку прывялым,
Відно, як ноччу рунь расце,
Як снег ідзе за пераваламі,

Як зоры восенню мігцяць
І гаснуць на світанні летам,
Як завязь новага жыцця
Буяе неадольным цветам.

І ў сэрцах заўважаю лёд,
А ў добрых зрэнках бляск гарачы,
І нават душы навылёт
Часамі вострым зрокам бачу.

Мне даўняй звычкі не пазбыць,
Нікуды ад яе не дзецца:
Пакуль жыву — жыццё любіць,
Глядзець на свет, не наглядзецца.

## ПАГАВАРУ З САБОЮ

Досвіткам каля ракі ты
Недзе ходзіш і цяпер,
Плачуць голыя ракіты,
І шуміць сухі аер.

Ліст пажоўклы, ліст чырвоны
Па густой плыве вадзе,

Зранку каркаюць вароны,—
Значыць, недзе дождж ідзе.

Каля ясеня старога
Прагна конь мурог скубе,
І твая яшчэ дарога
Не вядомая табе.

Дзе прыстанеш, кім ты будзеш,
Для якіх жывеш надзей,
Што ты страціш, што здабудзеш,
Чым парадуеш людзей.

Так, нічога не вядома
І не відна анідзе,
Па якой дарозе з дому
Лёс у вырай павядзе.

Затулі ад ветру грудзі,
Разам сядзем на мяжу,
Што з табой было і будзе,
Я табе паваражу.

Раскажу пра ўсё адразу,
Зазірну ў тваю душу
І нідзе ніводным сказам,
Нават словам не схлушу.

Не дзівіся: ўсё вядома,
Як ты жыў і як ты рос,
Бо ў глухую восень з дому
Нас павёў агульны лёс.

І адна хрысціла доля,
Выпраўляючы у шлях,
Бо адзін у нас да болю
І пачатак, і працяг...

Што жыццё прайшло, не плачу.
Ты ж у памяці жывеш:
Я цябе маленькім бачу,
Ты мяне не пазнаеш.

Дождж бубніць у шыбу тупа,
І чуваць яшчэ да дня
За ракою гулкі тупат.
Ці не нашага каня?

## СПАДЗЯВАННЕ

З гадамі душа халадзее,
І падаюць зоры часцей,
І траціцца нават надзея
Сваіх дачакацца гасцей.

Часцей у світальным тумане
Знікаюць палі і лясы,
А часам і ў яснае ранне
Не бачу былое красы.

Касы з пасівелага неба
Кастрычніцкі дождж імжыць,
Сцюдзённа, маркотна, а трэба
Пра заўтрае думаць і жыць.

Тужыць аб сваёй маладосці
Мае не паспелі сябры,
А ўжо і на новым пагосце
Рабінаў палаюць кастры.

Хай суджана крок ці паўкрока
Прайсці па крутым віражы,
Ды верыцца мне, што далёка
Яшчэ да апошняй мяжы.

## СОНЦА

Усходзіць сонца і зімой, і летам
І шчодра грэе ўсе мацерыкі,
Таму хачу, каб над спакойным светам
Яно свяціла доўгія вякі.

## ГАРЫЦЬ ЗЯМЛЯ

Імчыцца ненадзейны час
У дзікім і шалёным танцы,
І хціва шчэрацца на нас
Раз'ятраныя ашуканцы,

І хлусяць свету дзень у дзень
Майстры крывавае работы,
І большае злавесны цень
Ад іх ракет і эшафотаў.

Не, ім не ўдасца свет скарыць,
Прайсці чужымі берагамі,
Бо ўжо даўно зямля гарыць
Пад іх паганымі нагамі.

## ДАРОГА

Няўжо канчаецца дарога?
Падбіўся, але не прыстаў,
Хоць і было ухабаў многа
І пыл даўнейшы не растаў.

Былі расстанні і сустрэчы,
Трывогі з радасцю былі,
Сляпіла сонца, і на плечы
Завеі снегу намялі.

Ішоў удзень, ішоў уночы,
Свяцілі зоры і агні,
Каб не зблудзіў і каб не збочыў,
Каб не адбіўся ад радні.

Я любых траціў і знаходзіў —
Сябры працягвалі руку
У навальніцу, і ў разводдзе,
І на сіберным скразняку.

Зірну назад. Дзе мой пачатак?
Знікаюць вёрсты і гады,
І, як ад выцвілых пячатак,
Між каляінамі — сляды.

Назад вярнуцца немагчыма —
Да сцежак і да бальшакоў,
Ды добра, што перад вачыма
Дарога і зямля бацькоў.

## АПРАЎДАННЕ

Калі памру, каля труны не будзе
Ні медалёў маіх, ні ардэноў,
І раўнадушна запытаюць людзі:
«Відаць, лайдак, ці з колішніх паноў?»

А мне ніяк ужо не апраўдацца
На гэтай горкай сцежцы ў небыццё,
Што клопаты і толькі, толькі праца
Давалі мне жыццё на ўсё жыццё.

На развітанне з дамавіны нішкам
Сваіх сяброў ці блізкіх папрашу
Каля труны мае пакласці кніжкі —
Маю душу.

## ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ

Мяне не было і не будзе,
А зараз, пакуль яшчэ ёсць,
Жыву, як звычайныя людзі,
Сабе гаспадар, а не госць.

Калі мне да рання не спіцца,
У марах, нібыта ў кіно,
Імчыцца мая калясніца
Ў забытае намі даўно.

Без жалю б усё перакрэсліў,
Што добра, што кепска рабіў,
Каб хоць на імгненне ўваскрэслі
Усе, каго знаў і любіў.

Сцяжынкі завейвае лісце,
А вочы туманіць сляза,
Бо добрае слова калісьці
Не кожнаму другу сказаў.

Яны па адным адыходзяць,
А я спадзяваннем жыву
І нізка ў хвіліну праводзін
Схіляю ў журбе галаву.

За лебедзем падае лебедзь,
Калі саслабее крыло...
Так знікну і я калі-небудзь,
Нібыта зусім не было.

## У СНЕЖНЫМ ПОЛІ

Мароз і снег, а ў полі ціха-ціха,
Іскрыцца зорнай замеццю зіма.
Здаецца, што няма на свеце ліха
І больш бяды з пакутамі няма,

Што чыстыя цякуць пад лёдам рэкі,
Што самы мудры наш дваццаты век,
Што птушка разумее чалавека
І разумее птушку чалавек.

А чалавеку ўсё чагосьці мала,
Чым болей ёсць, тым болей не стае,
Таму жыццё на свеце нетрывала
Ліпіць, надзеі трацячы свае.

А без надзей дабра нідзе не будзе
У наш трывожны і суровы час.
Калі ж нарэшце зразумеюць людзі,
Што можа быць шчаслівы кожны з нас,

Упэўнены, даверлівы, спакойны,
Каб сеяць жыта, гадаваць дзяцей
І не баяцца, што навіслі войны,
А радавацца і спяваць часцей?

Звініць мароз, а ў полі ціха-ціха.
За ноч усе сцяжынкі замяло,
Каб не знайшлі мяне бяда і ліха,
Каб ні да кога гора не дайшло.

## ВЕЧНАЯ МАЦІ

Мне ніяк не пазбыць адзіноту,
І ніколі журба не міне:
Маці зноў пазірае з-за плоту
І чакае з дарогі мяне.

Выцірае хусцінкаю вочы,
Як у горкім далёкім жыцці,
І ні ўлетку, ні ў зімнія ночы
Ўжо не здолее з месца сысці.

Ападаюць асеннія мары,
Дагарае зары паласа,
З-за далёкае цёмнае хмары
Пакацілася зоркай сляза.

Час прыйшоў незваротнае траціць,
Сустракаць за бядою бяду,
Ды не знікне адвечная маці,
Покуль следам за ёй не пайду.

## ВІНА

Віну і пралікі свае
Я лепей за крытыкаў бачу,
Сумленне дыхнуць не дае,
Калі я сябе вінавачу,

Але не прымаю віну,
У чым не павінен ніколі,
Бо ведаю волі цану
І ведаю горыч няволі.

## СВАЁ СУМЛЕННЕ

Калі жыццё крыжуюць навальніцы,
А злосць няма на кім сарваць,
Балюча помсцяць за драбніцы,
Але не ўмеюць даравадь.

І, распраўляючыся крута,
Невінаватых і святых
Адной абпырскваюць атрутай
Без сведак і без панятых.

Сумленне чыстае заплямяць,
Зрыфмуюць пасквіль уначы,
Уласную адключаць памяць,
Каб толькі добра дапячы.

Хай лёс такі мяне не стрэне,
А злосць не пырскае дарма.
У кожнага ж сваё сумленне,
Бяда, калі яго няма.

## ПАДАРОЖНАЯ КНІГІ

Растала апошняя крыга,
Пастукала ў шыбу вясна,
Дапісана новая кніга,
Ці дойдзе да сэрцаў яна?

Ці рунню праб'ецца,
ці пожняй
Засохне па ўласнай віне,
Ці кнігаю стане апошняй,
Што выйдзе ужо без мяне?

Пастаўлена кропка. Трывожна,
Ці будзе заўважаны след?
Таму па старой падарожнай
Я выпраўлю кнігу у свет.

## БОМЫ

Звініць сярэбранымі бомамі,
То жаліцца сабе сама,
То плача і пяе над стромамі
Неспадзяваная зіма.

Накінула хусцінкі белыя
На стрэхі, брамы і сады
І замяла заледзянелыя
Дарогі, сцежкі і сляды.

Каля агню з табою дома мы
Маўчым і марым пра адно...
Зіма сярэбранымі бомамі
Звініць і стукае ў акно.

## ДАЖДЖЛІВАЕ ЛЕТА З БЛОКАМ

Я ўдзячны вятрам і аблокам,
Дажджу, што па тыдню імжыў,
Што ўлетку і восенню з Блокам
Кахаў, хваляваўся, тужыў,

Што з ім адпакутаваў здраду,
Што марнай надзея была,

Калі к салаўінаму саду
Ішоў, адпусціўшы асла,

Што верыў у міфы і ў казкі,
Чакаў, прадчуваючы, змен
І бачыў пад снежнаю маскай
Заўжды маладую Кармэн.

Хмяліла здзічэлая воля,
Як свежага ветру глыток,
Мячом з Куліковага поля
Звінеў гартаваны радок,

І вецер, і вецер, і вецер
Дасюль над планетай гудзе,
Пад сцягам чырвоным па свеце
Дванаццаць прарокаў ідзе.

Каршун з акрываўленым вокам
Вось-вось упадзе на траву.
Я ўдзячны вятрам і аблокам,
Што з Блокам у сэрцы жыву.

## ЛЕТУЦЕННІ

Туман і дым у вечаровым полі,
І цішыня трымціць у цішыні,
На ўзгорку перапёлка жыта поле,
Начлежнікі спяваюць пры агні.

Пазелянела неба на заходзе
І зіхаціць паўлінавым пяром,
Маладзічок з-за лесу узыходзіць,
Палуджаны блакітным серабром.

Кладуцца на траву густыя цені...
Такія ночы сняцца па начах,
І не даюць спакою летуценні,
Пакуль агонь у полі не ачах,

Пакуль спакойна засынаюць дзеці,
Пакуль цвіце сланечнік на градзе,
Пакуль душа душы у змроку свеціць
І сэрца з сэрцам гутарку вядзе.

## ВЫРАЙ

За выраем — вырай,
За выраем — вырай:
Знікаюць у небе
Ключы жураваў,
І песняй тужліваю,
Доўгай і шчырай
Яны аклікаюць
Далёкіх сяброў.
Пяюць развітанне
Да першых разводдзяў.
Іх лёту нікому
Нідзе не суняць...
Чуваць, як блакітныя
Зоры ўзыходзяць,
Як сэрцы трапечуць
І крылы шумяць.
Я ўслед пазіраю.
І будуць да рання
Мне сніцца і сніцца
Крылатыя сны,
Што золакам золкім
Іду на спатканне
З ключом жураўліным
І звонам вясны.

## СЛАВА

Усё бывала на маім вяку,—
Няўдачы, поспехі і нараканні,
І гора на пякельным скразняку,
І пахвалы былі, і віншаванні.

Але за ўсё на свеце даражэй
З натхненнем здзейсненыя справы,
А слава сейбіта вышэй
Любое найвышэйшай славы.

## СКУРАНКА

Сцвярджалі — хутка гоіліся ранкі
Пад хромам камісарскае скуранкі.
На ёй быў бант, рыпелі рамяні,
Яна не раз трашчала на агні,
У ёй у турмах разбівалі краты,
У ёй ішлі на штурмы, як на святы,
Гайдары эскадроны ў бой вялі —
Скуранкі іх мандатамі былі,
У вечнасць з грамадзянскае вайны
Бязвусымі ўрываліся яны.
А потым і скуранкі, і бушлаты
Здавалі у музей, як экспанаты,
Яны з жыццём рассталіся рэальным
І сталі рэквізітам тэатральным.
І вось скуранка выйшла зноў у свет,
Яе надзеў галкіпер і паэт,
Дастаў скуранку кінарэжысёр
І той, што не хапае з неба зор.
У ёй, сцвярджаюць, зручна і зацішна,
А самае галоўнае — прэстыжна.
Скуранка стала модай і таварам...
А хто з вас, хлопцы, стане камісарам?

## ЧАРАТЫ

Нас дваіх у дождж і вецер
Засланялі чараты,
І ніхто не знаў на свеце
Так, як знала чары ты.

Ты мяне зачаравала
Па дарозе да ракі,
І зязюля накувала
Нам з табою два вякі.

Паплыла ты ў лёгкім чоўне,
Толькі бліснула вясло,—
Апрача цябе і поўні,
Больш нікога не было.

Я цябе да рання клічу,
Хоць не ведаю, дзе ты,
Бо красу твайго аблічча
Засланілі чараты.

Дзе ты? Дзе ты? Да сустрэчы
Пазбіваю ўсю расу,
А знайду і цераз рэчку
Аж да дому данясу.

* * *

Начамі пахнуць касачы
І соладка, і гаркавата,
А мы з табою зноў маўчым,
Нібыта кожны вінаваты,

Што свой запал не зберaглі,
Што адляцелі летуценні,

Што ўслед за намі на Зямлі
У вечнасць кануць нашы цені.

Зляцела знічка наўкасы
І зіхаціць над небасхілам —
Твае іскрацца валасы,
Завеяныя зорным пылам.

Ну, усміхніся, не маўчы,
Давай прыпомнім толькі святы,
Каб назаўсёды зберагчы
Здабыткі нашыя і страты,

А трацілі мы ўсё, што ёсць,
З усмешкай, з яснымі вачыма,
Бо толькі страціць маладосць
У маладосці немагчыма.

## ТОЛЬКІ ЯБЛЫНІ ЦВІТУЦЬ

Не чутно ні гамону, ні скрыпу,
Паваліўся і збуцвеў паркан,
Над былым апеччам спее скрыпень,
Сцежку заглушыў сівы бур'ян.

Студня заплялася павуціннем,
Канапля буяе на мяжы,
Свішча вецер у пустой адрыне,
Вокны перакрэслілі крыжы.

У шчарбатых шыбах стыне поўня,
Грады пераворваюць дзікі,
У старой парэпанай шпакоўні
Болей не паселяцца шпакі.

Жураццa самотныя бярозкі,
Пчолы пералётныя гудуць,
Бо ў садх неперспектыўнай вёскі
Яблыні здзічэлыя цвітуць.

Тут гулялі ж некалі вяселлі,
Ткалі рушнікі і паясы,
І калыскі з году ў год віселі,
Як і ў старадаўнія часы.

Шашаль патачыў даўно калыскі
Тых, што не вярнуліся сюды,
Да магіл бацькоў і абеліскаў
Зараслі макрыцаю сляды.

Сонца узышло, а ў хаце ціха —
Змоўклі галасы, і смех, і плач.
Мабыць, напрарочыў вёсцы ліха
На старой алешыне крумкач.

Я дамоў здарожаны вярнуся,
Як нальюцца сокамі сады,
Хату адамкну, пайду нап'юся
Свежае крынічнае вады.

Перамыю вокны і падлогу,
Загарыцца лямпа над сталом,
Паглядзіць ласкава на дарогу
І гасцей запросіць светлы дом.

## МАЕ ГЕРОІ

Не за гарою і мае героі,
Хоць кожны з іх у дальняй старане,
Збіраюцца вячэрняю парою
Без доўгіх запрашэнняў да мяне.

У шарачках прыходзяць рудабельцы
З нядаўняй незабытай даўніны
Да зыркага асенняга цяпельца,
Каб трохі адагрэцца ад вайны.

За пазухай з марксісцкаю навінкай,
Ступаючы па веснавой вадзе,
Сяргей Мяржынскі з Лесяй Украінкай
Па вуліцы Мяржынскага ідзе.

Прыгожая, не кажучы ні слова,
Хоць з-пад Іркуцка і прыйшла за свет,
У Мінску Аляксандра Мураўёва
Глядзіць на мужаў бронзавы партрэт.

Пакутуючы кожны дзень аб страце,
Па бітых сцежках, ледзяной расе
Да абеліска сынавага Маці
Каторы год бяссмертнікі нясе.

...Калі маё жыццё паставіць кропку,
І я ўжо не здалею ачуняць,
Няхай мае героі нетаропка
Збяруцца, каб у варце пастаяць.

## У ЧАРЗЕ

Яе зняважліва абсеклі —
Паставілі ў канец чаргі,
Хоць і яна ў свінцовым пекле
Дайшла да Курскае дугі.

Стаіць ссівелая бабуля,
На люты хукае мароз.
Яна не плакала ад кулі,
А вось застылі кроплі слёз.

А дзве нахабныя дублёнкі
Пайшлі чарзе наперарэз...
Трымала бабка, як «лімонкі»,
Лімоны, і рыпеў пратэз.

* * *

Туман, туман і маладзік над жытам,
Галосіць кнігаўка ў цішы,
Нібы гаворыць мне: «Аб перажытым,
Калі не людзям — полю раскажы.

Яно пачуе і паспагадае,
Яно запомніць праўду назаўжды
І некаму калісьці прыгадае
Суровыя і горкія гады».

Іду ў тумане сцежкаю мурожнай.
Як светлякі, пабліскваюць агні.
У полі ціха, росна і трывожна,
І коціцца слязінка ў цішыні.

## НЕСПАДЗЯВАНАСЦЬ

*Памяці Алеся Бачылы*

Равеснікі раптоўна паміраюць
На скрыжаванні лета і зімы.
Напэўна, іх за дабрату караюць
Запознена пякельныя грамы,

Што не знайшлі у грозным сорак трэцім.
Ці ў сорак пятым не змаглі знайсці
І столькі год шукалі па планеце
Такога неабходнага ў жыцці.

Радзіма дарагая! Сэрцу горка,
Хоць і не змоўкла песня на Зямлі...
Гляджу на неба: праляцела зорка
І новыя сузор'і узышлі.

## БУРАЛОМ

Птушыныя замоўклі галасы,
Лісты асін дрыжаць, як завушніцы,
Здалёку дакаціліся басы
Неспадзяванай грознай навальніцы,

І раптам вецер хвоі разгайдаў,
Гушчар глядзіць трывожна і пахмура.
Ударыў гром, і хлынула вада,
Падхопленая нечаканай бурай.

Залева з кожным днём — даўжэй.
Ламае суччa, прабівае шаты
І скручвае, і суча ўсё тужэй
З жывых струменяў срэбныя канаты.

Пад ветрам стогне сівая сасна
І падае павольна на калені,
Згарнула вецце і дрыжыць яна,
Задраўшы ўгору белае карэнне.

Гудзе і на зямлі, і ў небе гром,
Густы сасоннік бура выдзірае,—
Усё жывое валіць буралом...
І так павольна пушча памірае.

Жывіцай захлынаюцца ствалы
Ад вострае сякеры і пілы.

Не прычакаць бы нам тае пары,
Калі усе на лядах апынуцца,
І толькі карабельныя бары
На шышкінскіх палотнах застануцца.

## ЗАГАДВАЮ НА ДОЎГІЯ ГАДЫ

Сплывае лета жураўліным клінам,
Падараваўшы ураджайны год,
І гаркаватай чырванню каліны
Гарадь лагодна захад і усход.

Не думаючы больш аб пережытым,
Загадваю на доўгія гады:
Зямля прапахла малаком і жытам,
Набраклі сокам спелыя сады.

І па маім памаладзелым Глуску
Плыве з Зарэчча водар верасны.
Начамі жураўлі па-беларуску
Развітваюцца з намі да вясны,

А напрадвесні вернуцца дадому,
Закончыўшы нялёгкі пералёт...
Аднекуль ім раней за нас вядома,
Што будзе добры і наступны год.

## РАЗВІТАННЕ З ДОМАМ

Запальвае асенні вечар
Халоднай чырванню акно.
Вось і апошняя сустрэча
З усім, што страчана даўно.

Гасцініца амаль пустая.
Я трэці дзень у ёй адзін,
І толькі вецер надзімае
Тугія ветразі гардзін,

Ды недзе голуб стогне ў змроку,
Кажан знікае ў вышыні,
За вокнамі змаўкаюць крокі
Чужой, а не маёй радні.

Мяне ніхто тут не сустрэне,
Ніхто мяне не правядзе,
І маладосці летуценні
Сплылі кругамі па вадзе.

Далёкае змаўкае рэха,
На росах растаюць сляды...
Прабач, я да цябе прыехаў,
Каб развітацца назаўжды.

## АБМЕН

«Ты — здраднік,
Адступнік,
Няўдзячны вар'ят,
Ты глупствам набіты
Ад цемя да пят.
Ну, што ты надумаў?

Каго разлюбіў?
Каб хто табе вочы
Хутчэй разляпіў!
Ну, чым табе кепска
Са мною было?
Я шчодра дзяліла
З табою цяпло,
Ад смутку я ведала
Безліч замоў,
Таму адусюль
Ты спяшаўся дамоў,
Ты быў малады,
А цяпер у гадах,
Цябе ад бяды
Закрывае мой дах,
Твае валасы
Затуманіла соль,
А я ж сунімала
Пякучы твой боль.
Няўжо ты пакінеш
Мяне назаўжды,
Забыўшы пра лепшыя
Нашы гады?
Лятаюць твае летуценні
Наўкол,
Забіты тваімі ўспамінамі
Стол.
Бяссонныя ночы,
Трывожныя ранні,
Няўдачы твае
І твае парыванні.
Мы марылі разам
Усё перайначыць
І бачылі ўсё,
Што нікому не ўбачыць.
А ты мне сасватаў,
Ні мала ні многа,
Чужых, незнаёмых
І з імі бульдога».

З такім абурэннем
І злосцю такою
Мяне папракалі
Ў кватэры пакоі:
«Ты — здраднік,
Адступнік,
Мы страцілі веру!»
Суцешцеся.
Я не мяняю кватэру!

* * *

Пакуль жыву, усё жывое
Ўласціва мне, і вось таму
З высока ўзнятай галавою
Выходжу сустракаць зіму.

І не бяда, што столькі гора
Прыпала на нядоўгі век,
Бо мне свяцілі нашы зоры,
Вада паіла з нашых рэк.

Над стромаю і на парадзе
Сябры надзейныя былі,
Бо верны матчынай парадзе:
Жыць толькі для сваёй зямлі.

## ВЕЧАР

> Так что слишком и очень
> Не сходите с ума,
> Если кончилась осень
> И настала зима.
>
> *А. Межыраў*

Век чалавечы прамільгне, як цень,
Калі яшчэ не думаюць аб страце.
Світанне абяцае немаўляці
Шчаслівы ранак і пагодны дзень.

А страты падпільноўваюць штодня:
За радасцю хаваюцца няўдачы,
І чалавек стрымаць не можа плачу,
Што здраджваюць чужыя і радня.

Спяшаецца і гнецца, каб не ўпасці,
Каб ашчаслівіць блізкіх і сябе,
Адзін за трох цягае на гарбе
Уласнае або чужое шчасце,

Бо ўпэўнены, што так павінна быць,
Што будзе толькі так, а не іначай,
Што радасці прыходзяць за няўдачай,
Што час і спадзявацца, і любіць,

Што поўдзень, і што поспехаў даволі,
Што некаму яго патрэбен спрыт,
І ўжо чужыя лёсы, як спірыт,
Ён круціць па сваёй уласнай волі.

І вось ён стаў павольны у хадзе,
Ужо не можа перасіліць стому,
Заўважыў — не патрэбен анікому,
І не чакаюць больш яго нідзе,

Не запрашаюць болей на сустрэчы,
Каб красамоўствам зачароўваць нас,
Ён не заўважыў, што ў імклівы час
Так нечакана надыходзіць вечар.

## ТАЯМНІЦА

Куды ні глянеш — таямніцы,
Задачы мудрыя адны:
Адкуль прабіліся крыніцы
І дзе сыходзяцца яны?

Куды ні глянь —
Адны загадкі,
Куды вядзе касмічны след?
Але штодня надзейней кладкі —
Да неразгаданых планет.

Што ж, разгадаюць іх нашчадкі,
Ім будзе добра ўсё відаць,
Але няма цяжэй загадкі —
Сябе самога разгадаць.

## ЛІРЫЧНАЕ

Асыпае лісце верасень,
А пялёсткі — белы май,
На крутым зялёным беразе
Ты юнацтва затрымай,

Каб яно не заблудзілася,
Не згарэла на агні,
Каб душа з душой свіцілася,
Як сузор'і ў вышыні.

Мы з табою пойдзем берагам
Па задымленай расе,
Можа, нам з туману белага
Бусел шчасце прынясе.

Нашы сцежкі разыходзяцца,
Але сыдуцца ў бядзе,
І душа з душою згодзіцца
І не здрадзіць анідзе.

## У САМАЛЁЦЕ

Пад намі — воблакаў сумёты,
Над намі — лёгкі зорны пыл,
Ілюмінатар самалёта
Адкрыў барвовы небасхіл.

Гудуць размерана маторы,
Дрыжыць настылае крыло,
Зялёныя ўзыходзяць зоры,
І загараецца святло.

Усё спакойна. Без пагрозы
Касмічным цягне вецярком,
Суседцы заплятае косы
Прамень ружовым каснікам.

А над калыскай немаўляці,
Прапахлай цёплым малаком,
Схілілася і дрэмле маці,
Шчаку падпёршы кулаком.

Напэўна, сніцца ёй Адэса,
Фантанаў сонечны каскад.
Як чарацінка, сцюардэса
Нясе іскрысты ліманад.

Звіняць напружаныя скроні,
І наплывае забыццё
Дзесь на няўлоўным перагоне
Паміж трызнёю і жыццём:

Здаецца, здрадзіла паветра,
Маторы змоўклі назаўжды.
Хвіліна, і паўкіламетра
Нас аддзяляюць ад бяды.

Ад жаху вар'яцее маці,—
Спрабуе засланіць дзіця.
І кожны ўжо надзею траціць
Ізноў вярнуцца да жыцця.

Яго ўтрымаць не маюць сілы
Непаслухмяныя рулі,
І вось ужо знікаюць крылы
У нетрах вечнае зямлі...

І раптам голас: «Прышпіліцца.
Наш завяршаецца палёт».
І трэба ж гэткаму прысніцца?!

А дзесьці гіне самалёт.

## НАДЗЕЯ

Жыву заўсёды пад прыцэлам,
І думы чорныя снуюць,
А тыя, што душу ад цела
Адвейваюць, кактэйлі п'юць,

Начамі цешаць маладзіцы
Іх за паслугі і прэзент,
І кожны трохі маладзіцца,
Нібы заморскі прэзідэнт.

Яны нясуць жанкам букеты
І ў дзверы стукаюць не ў час,

А іх крылатыя ракеты
Даўно нацэлены на нас.

Адкуль у іх такая прага
І столькі злосці ўваччу?
Таму, што я пад вольным сцягам
Жыву, і так, як жыць хачу.

Няўжо ж павар'яцелі людзі?
Няўжо адзіны ў пекла шлях?
Няўжо спакою больш не будзе,
А толькі страх, заўсёды страх?

На нас глядзяць з надзеяй дзеці
І ўсё жывое на Зямлі,
Каб на вякі на белым свеце
Усе шчаслівыя былі.

* * *

Крытыкавалі і хвалілі
З нізоў і нават з вышыні,
А я не захлынуўся ў пыле
Пустой нікчэмнай мітусні.

Кляпаў таварыш мой зласлівы
І часам сыкаў, як змяя.
А я ж усё-такі шчаслівы,
Бо некаму патрэбен я.

## МУЗЫКА

Звініць над вадой чарацінка,
Гудзе на ўзбярэжжы сасна,
У вербах салоўка заціўкаў,
Грамы раскаціла вясна,

Дажджынкі шумяць па лістоце,
Расінкі дрыжаць на траве,
І ў кожнай маленечкай ноце
І радасць, і гора жыве.

Заходзяцца срэбныя трубы,
Пялёсткі ляцяць на зямлю,
І шэпчуць гарачыя губы
Адвечнае слова «люблю».

Самотны ад шчасця нямею
На роснай палыннай мяжы,
Што часам падслухаць умею
Мелодыі шчодрай душы.

## ЗНОЙДЗЕНАЕ СЛОВА

Пакутую, страціўшы слова,—
Мільгнула і знікла ізноў.
Ратуй мяне, родная мова,
Вярні мне аснову асноў.

Шукаю. Няўжо разгубілі?
Няўжо не здалею знайсці
Забытыя казкі і былі,
Вышэйшую праўду ў жыцці?

І раптам галоўнае слова
Ў віры нерастрачаных слоў
Адкрыла мне родная мова —
Сум-лен-не —
аснова асноў.

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Не дарыце мне нічога
Ад сяброў і ад радні,
Дайце толькі на дарогу
Трошкі шчырай цеплыні.

## ПРАВА НА ПРАЎДУ

У кожнага на праўду права ёсць,
Але не кожны мае сілу волі,
Каб выказаць і пахвалу, і злосць,
Што некаму часамі вочы коле.

У кожнага на праўду права ёсць,
Але не ўсе аднолькавай пароды...
Ты ж не зважай — хто гаспадар,
хто госць,
А гавары, што думаеш, заўсёды.

## *Снежаньскі дзённік*

* * *

Не таму, што шукаў і шукаю
Я на шчасце дванаццаць падкоў,
Не таму, што зіму сустракаю,
Я складаю дванаццаць радкоў,

А таму, што знаходжу па зорах
Карацейшы нястоптаны шлях,
Каб радок, як спрасаваны порах,
Меў і сілу, і колер, і пах,

Каб нікому не быў на пацеху,
Каб адразу не змоўк у глушы,
Як змаўкае кароткае рэха,
А душой дакрануўся душы.

* * *

На дзень па тры разы
У апусцелай хаце
Глядзіць на абразы
Укленчаная маці

І шэпча: «Васілёк,
Алёшачка, Мальвіна,
Гукніце мне здалёк
З-пад Прагі і Берліна».

На покуце з пазоў
Растуць рабіны гронкі,
Заместа абразоў
Вісіць тры пахаронкі.

* * *

Такая бывае патрэба,
Калі неспакойнай душы
Не ведаю, пекла ці неба
Загадвае: «Праўду кажы.

На радасці і на пакуты,
На змрок, і на веліч святла
Глядзі Праметэем раскутым,
І болей не бойся арла».

Няхай я нічога не значу,
Нічога няхай не змяню,
І ўсё ж гавару, калі бачу,
Што праўдаю лічаць хлусню.

* * *

Забыліся казкі і былі,
Імёны і твары забыў
Усіх, што мяне разлюбілі,
Усіх, каго я разлюбіў.

Знікаюць гады і стагоддзі
У вір віратлівых падзей,
За імі услед адыходзіць
Мільён за мільёнам людзей.

І зноў разгараецца ранне,
За зоркаю зорка плыве.
Не вечна нішто, а каханне
Заўсёды жыло і жыве.

* * *

Чытаю «Я з вогненнай вёскі...»
І сам папялею у ёй,
Бо словы, шматкроп'і і коскі
Набраклі гарачай крывёй.

Ніколі не будзе спакою,
Ружовых і радасных сноў,
Бо стукае чорнай рукою
Мінулае ў сэрца ізноў.

Чытаю «Я з вогненнай вёскі...»
І чую жывых галасы,
Апошнія бачу дакоскі
У кроплях крывавай расы.

* * *

Заінелыя елкі. Снягі і снягі,
І агеньчык за сінім пагоркам,
Як слязінка, ад радасці ці ад тугі,
З небасхілу скацілася зорка.

Два сляды цераз поле вядуць да святла,
Можа, з дому, а можа, дадому.
Можа, разам са мною ты следам прайшла
І прапала. Куды — невядома.

Я дагэтуль шукаю цябе праз гады,
Як надзею, падтрымку, уцеху...
Замятае завея на сцежцы сляды,
І змаўкае уласнае рэха.

* * *

*Змітраку Астапенку*

Магіла невядомая паэта.
«Але ці варта гаварыць пра гэта?» —
Пытаюцца часамі і ў мяне.
Напэўна, у далёкай старане
Сасоннікам магіла зарасла,
А блізка — ні гасцінцаў, ні сяла,
І не вядома, на якой вярсце
Яна ў пясках ці ў вечнай мерзлаце.
Нібыта несуцешная ўдава,
Над ёй галосіць па начах сава.
Адказвае ёй вецер баравы:
«Няма магілы, а паэт жывы».

* * *

Не разумею і не зразумею,
Чаму жыву вось гэтак, а не так:
Умею штосьці, але больш не ўмею,
Быў прастаком і назаўжды — прастак.

Я з жалем тую хату ўспамінаю,
З якой калісьці вырвацца хацеў,
Але і сёння сцежку не мінаю,
Дзе і палын, і дзяцельнік цвіце.

Дзе б затрымацца, але зноў вярнуся
Да мітусні, паперак на стале —
Па ўласнай волі, а не па прымусе,
Жыву ў сталіцы, а душа — ў сяле.

* * *

Трымцяць пад ветрам тонкія галіны,
Шуміць і гнецца апусцелы сад,
Зрываюцца расінкі штохвіліны
І болей не вяртаюцца назад.

Зрываюцца расінкі з павуціны,
З пажоўклага ліста, з тваіх павек.
Вось так у вечнасць падаюць хвіліны
І ўжо назад не вернуцца павек.

І чырванню, і горыччу каліны
Аздоблены і лес, і кожны лёс...
Хачу пражыць, каб светлыя хвіліны
Не засланілі кроплі горкіх слёз.

* * *

Не спакушай мяне, змяя,—
Твайму не пакланюся дрэву,
Бо ведаю спрадвек і я,
Калі ты спакусіла Еву.

Яе нашчадкі і сыны,
Падобныя у кожнай рысе,
З атрутаю твае віны
Па белым свеце разбрыліся.

Напэўна, цешылася ты,
Лічыла чорны дзень за свята,
Калі скавалі меч браты
І замахнуўся брат на брата.

* * *

Адкуль бяруцца ворагі? Адкуль?
Хоць і спрабуюць добрымі здавацца,
Але ад іх паклёпаў, як ад куль,
Нялёгка засланіцца і схавацца.

Мне не патрэбна іхняга дабра,
Я не хачу іх збэсціць ці сурочыць,
Але аднойчы надышла пара
Сказаць усё, што думаю, у вочы...

Відаць, без ворагаў не пражывеш,
Без шчырасці — заплеснявееш,
Таму заўсёды праўду рэж,
Калі душой крывіць не ўмееш.

* * *

Благаслаўляю ранне, дзень і вечар,
Спякоту, завіруху і слату,
Люблю не развітанні, а сустрэчы,
Складанасць думкі, формы прастату.

Благаслаўляю месячныя ночы
І цемень вераснёвых вечароў,
Бо з кожнаю хвілінай шлях карочшы
Да канцавых зажураных бароў.

Благаслаўляю маладое вецце,
Зялёную і жоўтую траву.
Я ўсё люблю, што ёсць на белым свеце,
І радуюся, што яшчэ жыву.

* * *

Пакойчык у фіранках і вазонах
Нарэшце я прыдбаў і палюбіў,
Але юнацтва на харчах казённых
Не выкрасліў з душы і не забыў.

Я не забыў пад'ёмы па загаду,
Завеі і гарачы пыл дарог.
Відаць, таму звычайную спагаду
Да кожнага, каму цяжэй, збярог.

І ўсё ж, відаць, не дарам сілы трачу,
Калі слабейшым памагчы хачу.
А не змагу — з чужога гора плачу,
І толькі пра сваю бяду маўчу.

* * *

Я памыляўся. Можа, памылюся,
Ці некага пакрыўджу незнарок,
Схлушу,— адразу праўдзе пакланюся
І сам зраблю да згоды першы крок.

Любоў і праўда — вечныя святыні,
Да ісціны — надзейныя ключы,
Яны дарогу да душы адчыняць,
Каб дабратою злосць перамагчы.

За ўласныя памылкі і папрокі
Я сам сябе бязлітасна караў.
І зноў раблю да згоды першы крокі:
Даруйце мне, а я вам дараваў.

* * *

Няроўны свой лёс дачытаю старанна,
І шчасця, і гора звязаўшы канцы,
Забудуцца крыўды, загояцца раны,
Не гояцца толькі на сэрцы рубцы.

Адчуўшы задоўга бяду і нягоды,
Ці лютую прагу паліць і карацца,
Яны, як барометр на змену пагоды,
То ныюць, то болем пякельным гарацць,

Бо хціўцаў дагэтуль хапае на свеце,
Што прагнуць жывое усё спапяліць,
А людзям жа сонца аднолькава свеціць,
І толькі па-рознаму сэрца баліць.

* * *

Над намі поўня ў снежным полі.
Нас трое — месяц, ты і я.
Застылі ў інеі таполі,
Блішчыць на снезе каляя:

Сляды пакінула палоззе,
Грузавікі і капыты,
А мы да поўначы ў дарозе —
Блакітны месяц, я і ты.

Нібыта мы адны на свеце
У гэтай снежнай старане,
І толькі нам здалёку свеціць
Адзін агеньчык у акне.

* * *

Прыснілася маці і рукі
У цесце над цёплай дзяжой,
А песні тужлівыя гукі
Ужо — за апошняй мяжой
Зямнога яе існавання,
У полі прастылі сляды,
І постаці родных, як здані,
Знікаюць ужо назаўжды.
Усё заплывае імжою,
А сніцца часцей і часцей
Матуля над цёплай дзяжою
І хлеб на кляновым лісце.

* * *

Не абміні чужой бяды,
Сабой не надта ганарыся,
Няхай спяшаюцца гады,
А ты вазьмі і прыпыніся:

Слабому працягні руку,
Сляпому пакажы дарогу,
Падай акраец жабраку,
Суцеш малога і старога,

Тады і познюю зіму
Усмешкай стрэнеш маладою
І не прыйдзецца аднаму
Застацца са сваёй бядою.

* * *

Вячыстыя сосны да самага неба
Ўзнімаюць тугія галіны свае,
Пад імі засмягла пясчаная глеба,
Над імі жаўна на світанні пяе.

Шумяць верхавіны, калышацца вецце,
Мядзяныя шышкі гудуць, як званы,
Расінкі дрыжаць і вясёлкамі свецяць,
А ўсходзіцца вецер — патухнуць яны.

Усходзіцца вецер з далёкай даліны,
Закруціць, пагоніць лісты па зямлі.
Гайдаецца вецце, шумяць верхавіны,
І толькі стаяць нерухома камлі.

* * *

Снягі завеялі сцяжынкі,
Кусты, галлё і буралом,
І сойка лёгкія сняжынкі
Страсае вогненным крылом.

У лесе ціха і трывожна,
Заледзянелі хмызнякі,
І толькі недзе асцярожна
Снуюць галодныя дзікі.

Каля замеценай крынічкі
Іх след знікае ў змрок лясны,
А на праталіны брусніч нік
Выходзіць веступом вясны.

* * *

Ні смелых мар, ні спадзяванняў
З табою ў нас даўно няма,
І сцежкі першага кахання
Ужо завеяла зіма,

Але душы не астудзіла,
Не засляпіла вочы нам
Ні замеццю, ні снежным пылам,
Ні драбязой будзённых драм.

Хай недалёка да расстання,
Хай зікнуць нашыя сляды,
А казку першага кахання
Нашчадкі ўспомняць праз гады.

* * *

Мы пойдзем з табой па асенніх садах,
Каб хоць на хвіліну ў юнацтва вярнуцца,
Схаваемся ў дождж пад рабінавы дах,
Каб мокрай шчакой да шчакі дакрануцца.

Не ведаю, стрэнемся болей ці не.
Магчыма, наперадзе толькі разлукі,
Магчыма, што радасць ізноў абміне
І рук не кранцуцца стамлёныя рукі.

Дык пойдзем па ціхіх асенніх садах,
Няхай і не ўдасца ў юнацтва вярнуцца,
І ўсё ж да прадвесня і ў нашых слядах
Вада і сухія лісты застануцца.

* * *

Не ведаю, якая сіла
З табой звязала нас навек.
Па свеце нас яна насіла,
Слязінкі звейвала з павек.

Калі ў мяне надзеі мала
Было вярнуцца да святла,
Жыцця іскрынку ты ўтрымала
І сілу новую дала.

Няхай маршчынкі пад вачыма,
А мне спакойна адтаго,
Што і сягоння немагчыма
Нам аднаму без аднаго.

* * *

Вядома усім і вядома даўно,
Што ў кожнай бядзе вінавата віно.

Яно пахавала за employed мару,
Штурхала бязвольных на муку, на кару.

Віно вінаватых саджала за краты,
А тыя крычалі: «Віно вінавата!»

Нахабным і дзікім рабіўся нясмелы
І плёў несусвеціцу, як ачмурэлы,

Любіліся хмельныя мамы і таты,
А ў іх нараджаліся толькі вар'яты.

Дакуль жа цярпець, хоць і знаем даўно,
Што ў бедах усіх вінавата віно?

* * *

> Плакала Саша, как лес вырубалі...
>
> *М. Някрасаў*

За вокнамі трашчыць бензапіла —
Сасновы ствол кладзецца да ствала,
Галосіць елка, трушчачы падлесак,
У снег ляцяць скрылі ружовых трэсак.

Я пратэстую. А мне кажуць: «Трэба
Адкрыць у вашых вокнах болей неба,
Працерабіць прасеку ў гушчары,
Каб вас хутчэй знаходзілі сябры».

Пілуюць, нішчаць і сякуць знарок,
Нібыта ім заслалі бельмы зрок,
Клапоцяцца нібыта пра мяне,
А дровы прадаюць на старане.

* * *

Усё грукоча і гудзе,—
Літаўры бліскаюць, як шаблі,
Здаецца, люстра упадзе
Пад гукі моднага ансамбля.

Вушам адхлання не даюць
Дынамікі. Нібы вар'яты,
Крычаць, а лічаць, што пяюць,
Тры барадатыя кастраты.

Грыміць, грукоча і гудзе
Саліст і бубен барадаты.
А песня матчына ідзе
Адна аселіцай дахаты.

* * *

Што ж, застаецца лічаныя крокі
Прайсці да той апошняе мяжы,
Дзе ўжо няма штодзённае марокі,
Дзе толькі — абеліскі і крыжы,

Дзе ў кожнага — маленечкі палетак,
Дзе горка плачуць вербы і жанкі,
Дзе дождж сцякае з папяровых кветак
І пахнуць позні́м вераснем вянкі.

Ніхто адтуль не вернецца ніколі,
Хоць і трапляюць часам без пары.
Туды і я збіраюся паволі,
Бо там ужо амаль усе сябры.

* * *

Зямля, я з табою ў сусвеце імчуся
Праз лета і восень у замець зімы,
Гляджу, як вяртаюцца з выраю гусі,
І толькі назад не вяртаемся мы.

Нам часу бракуе спыняцца ў дарозе,
Калі над Зямлёй — апраметнае цень.
Мы ў клопатах вечных, у вечнай трывозе
Пра светлае ранне і заўтрашні дзень.

Зямля, я з табою ў сусвеце імчуся,
Калі ж мяне спішуць з майго карабля,
З табою ніколі я не разлучуся:
Ты прымеш мяне назаўсёды, Зямля.

* * *

Пакуль не распусціліся пупышкі
На вербах і галінках лазняка,
У звонкія гліняныя гладышкі
Бярозавік сцякае з латака.

Асіннікі за сіняю смугою
Набраклі горкім сокам у глушы,
І вецер павуцінкаю тугою
Трымціць і дакранаецца душы.

А ў смольным сонечным зацішку
Гайдае дзяцел спелую сасну,
І аблачынка заплыла ў гладышку,
З якое прагна п'ю вясну.

# ТЫПЫ

---

*ЯШЧЭ ЖЫВУЦЬ, ЯК ВІРУС ГРЫПА,*
*І ТЫПЫ, І НАШЧАДКІ ТЫПА...*



## ДЭФІЦЫТЫ

Дэфіцыты! Дэфіцыты!
Не таму, што не стае,
А таму, што прагавіты
Цягне наша, як свае,—
І варэнне, і саленне,
І бетон, і антрацыт,
І выходзіць, што сумленне —
Самы большы дэфіцыт.

## ТОНКІ КРЫТЫК

Бойкі крытык Забародаў
Знае безліч розных кодаў
І разгадваць першы рады
Паэтычныя шарады.
Прасачыў усе «шыфроўкі»
Ад Гусоўскага да Броўкі,
І ад Лукшы да Камейшы,
Бо за іншых разумнейшы.
І яшчэ ён спец вялікі
На даўгія пералікі:
Спрытна хваліць тых тавар,
Хто яму знаёмы ў твар,
А рэдактар ці намеснік
У яго заўжды — кудзеснік,
І дасціпны, і актыўны
Талент асацыятыўны.

А калі ж у раманіста
Служба трошачкі вышэй,
Захапляецца ўсім чыста
Ад падэшвы да вушэй.
Крытык тонка ўсё ўспрымае,
Бо здаровы страўнік мае.

## ЗВАННЕ І ПРЫЗВАННЕ

— У вас якія званні? —
Спыталіся ў мяне.
— Не маю ані звання.
— Тады не будзе, не,
Прызначанай сустрэчы.
Нам трэба лаўрэат,
Нарэшце быў дарэчы б
Дацэнт ці кандыдат,
А чалавек без званняў
Чамусьці не ў цане...
— Затое ёсць прызванне
Сапраўднае ў мяне...
— Не, не патрэбны. Не!

## ВАДА Ў СТУПЕ

Пакуль не крыкне: «Годзе!»
Адважны чалавек,
Таўчэ ваду на сходзе
У ступе Імярэк.
Таўкач грукоча тупа
Ужо каторы год:
Парэпалася ступа,
Але трывае сход.

## ЭКСПРОМТ

Як жыў на свеце бабылём,
Пазарастала ўсё быллём,
А як прыйшоў да Насты я,
Расце мая ды-нас-тыя!

## ШКАДУЮ

Калі я быў Яму патрэбны,
І Ён мне гімн складаў хвалебны
І дзве рукі заўсёды трос,
Ды непрыкметна сам падрос
І цвёрда стаў на дзве нагі,
А каб пралезці без чаргі,
Ён выставіць на смех і здзек
Дзесятак добрых чалавек.
Ён іх паклёпамі дзяўбе,
Каб толькі вылучыць сябе.
Ды з іх адзін заняў пасаду,
А Ён усё таўчэцца ззаду.
І вось, адкінуўшы сумленне,
Ён можа ўпасці на калені,
І падае, і гімн пяе,
Каб справы ўладкаваць свае,
Калі ўладкуе, утрасе,
Зноў небыліцы панясе.
Яму не трэба я. Мяне
Ён бэсціць, ганьбіць і кляне,
Бо сам даўно зрабіўся сталым,
Бяспамятны, ды з доўгім джалам,
А я цярплю і не бядую,
Бо часам і такіх шкадую.

## ЗАПРАЎКА

Каля прадуктовай крамы зранку стаіць мноства машын. На пытанне: «Чаго спыніліся?» — вадзіцелі адказваюць: «Заехалі на запраўку».

*З насценгазеты «За ўдарныя тэмпы»*

У канаве шчыпле траўку
Новы трактар «Беларусь»,
Бо да крамы на «заправку»
Прыкаціў ізноў Пятрусь.

У яго пустыя «бакі»,
А з пустымі — не з рукі,
Ды на краме, як сабакі,
Вушы звесілі замкі.

Дзе ж прапала тая Света,
Што пазбавіць ад нуды?
Без «Асенняга букета»
Ні туды ж і ні сюды.

Магазіншчыца паціху
Ў новых боціках ідзе.
«Каб яе стаптала ліха,
Вырас рог на барадзе!»

Праклінае дзеўку Пеця,
Затаіўшы ў сэрцы злосць,
У «Асеннім жа букеце»
Ад нуды збавенне ёсць.

Не спяшаецца Святлана —
Завярнула ў сельсавет,
Бо яшчэ падносіць рана
Хлопцам «Восеньскі букет».

Перад крамаю — калона:
МАЗы, КрАЗы, трактары,
Да дзвярэй пад'ехаў конна
Без чаргі ляснік стары.

Адамкнула Света дзверы,
Усміхнулася: «Праш-у-у!»
І хлапцы па тры «букеты»
Адхапілі на душу.

Набукецілiся зранку,
Папраўляліся ў абед,
А увечары да ганку
Не знайшлі і ўласны след...

У тумане знікла лета,
Заглушыў аўсы бур'ян,
Ды затое ў краме Света
Тройчы выканала план.

## ТЫПЫ

Бяздарны нягоднік не страшны,
Хоць спрытна паклёпы вярзе.
Што ён і тупы, і прадажны
Здалёк заўважаюць усе.

Нібы дыпламат, самавіты,
Благога не скажа услых:
Разумны і таленавіты
Нягоднік страшнейшы за ўсіх.

## ЗМЕСТ

### АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Тыпы**

**Грахоўскі С.**

Г 78 Кругі надзеі: Кн. новых вершаў, 1982—1984.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 111 с., іл.

55 к.

Новая кніга Сяргея Грахоўскага — своеасаблівы лірычны дзённік. У ім — роздум, радасці і трывогі пра наш неспакойны час, пра лёс Зямлі і людзей, клопаты пра сумленнасць, чысціню і высакароднасць адносін, споведзь чалавека, які многа пражыў, перажыў і пабачыў.

Асобны раздзел складаюць вершы пра некаторыя негатыўныя з'явы ў нашым побыце.

Г $\frac{4702120200-018}{М302(05)-85}$ 54—85

**ББК 84Бел7**
**Бел2**

*Сергей Иванович Граховский*

*КРУГИ НАДЕЖДЫ*

Книга новых стихов
1982—1984

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*

Рэдактар Н. І. Семашкевіч. Мастак Я. І. Жылін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. Ю. Гузава.

ІБ № 2124
Здадзена ў набор 07.05.84. Падп. да друку 17.10.84. АТ 05761. Фармат 75×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,37. Ум. фарб.-адб. 4,69. Ул.-выд. арк. 4,49. Тыраж 3500 экз. Зак. 374. Цана 55 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.